



# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

8 красавіка 2016 года №15 **(1093)**


Новая рубрыка "Праверана на сабе":

**Набывалі кампактную канапу, а атрымалі цэлы мэблевы пакой**

старонка 5

**12 красавіка будзе рамонт чыгуначнага моста на перагоне Беларусь–Радашкавічы.**

**Як даехаць да Мінска**

старонка 18



# Беразінскае апынаецца ў катлаване буйной вытворчасці

**На грамадскіх слуханнях зразумелі непазбежнасць свінакомплексу ля Соўлава, жыхары просяць трымацца экалагічнасці**




старонка 3

Калаж, скарыстанае фота Андрэя Кузнечыка, ssl.panoramio.com.

## Смяротны выпадак ў сельгасфіліяле "Маркава". Работнік зваліўся ў кароўнік

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарэнне адбылося каля 12:45 31 сакавіка.**

Пра гэта распавёў старшы следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч.**

У сельгасфіліяле "Маркава" ААТ "Маладзечанскі райаграсэрвіс" рамантавалі дах. Адзін з работнікаў па незразумелых прычынах стаў на дах кароўніка малочнатаварнай фермы, зроблены з полікарбанату. Матэрыял не вытрымаў цяжару, і мужчына зваліўся ўнутр.

Вышыня кароўніка – шэсць-сем метраў.

Пасля падзення мужчына быў у свядомасці, яму моцна балеў жывот. Яго адвезлі ў бальніцу на аперацыю, але ён не выжыў.

Прычына смерці і іншыя абставіны здарэння высвятляюцца.

**Аддзел інфармацыі.**

## Віляйчанін перамог на рэспубліканскай алімпіядзе

ВІЛЕЙКА

Вучань 8 "А" класа вілейскай гімназіі №1 "Логас" **Іван Прылепскі** заваяваў Дыплом першай ступені на заключным (чацвертым) этапе рэспубліканскай алімпіяды па матэматыцы.

Пра гэта паведаміла настаўніца гімназіі **Алена Мачэль**. І дадала:

– Рэспубліканская прадметная алімпіяда праводзіцца ў чатыры туры: школьны, раённы, абласны і рэспубліканскі. Як цяжка прайсці вучню ўсе чатыры этапы! Гэта падрыхтоўка, падрыхтоўка і яшчэ раз падрыхтоўка. Многа гадзін трэба ўдзяліць вывучэнню вызначанага прадмета, каб перамагчы. Як на спартыўнай дыстанцыі, не здолеў, выдахся – выніку не будзе!



Фота забяспечанае Аленай МАЧЭЛЬ.

Іван Прылепскі прайшоў чатыры этапы рэспубліканскай алімпіяды і перамог.

Па інфармацыі аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама, вучні з Вілейшчыны заваявалі на заключным этапе рэспубліканскай алімпіяды яшчэ два Дыпломы трэцяй ступені. Адзінаццацікласнік Куранецкай сярэдняй школы **Андрэй Жаўняровіч** – па хіміі, дзевяцікласніца сярэдняй школы №3 Вілейкі **Ганна Арлоўская** – па беларускай мове і літаратуры.

Па апошнім прадмеце пахвальным водгукам адзначаная вучаніца дзявятага класа вілейскай гімназіі №2 **Яніна Аляксеева**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Дзецям адмяняюць некаторыя прышчэпкі ад туберкулёзу і поліяміэліту

**Адпаведныя змяненні распарадзілася ўнесці Міністэрства аховы здароўя.**

Таму ў календары прафілактычных прышчэпак адбыліся наступныя змяненні.

Супраць туберкулёзу вакцынуюцца наванароджаныя на 3-5 дзень жыцця. Прышчэпка ў 7 год адмененая.

Супраць поліяміэліту вакцынуюць дзяцей у 3, 4, 5 месяцаў і ў 7 год. Адмененыя прышчэпкі ў 18 месяцаў і 2 гады. Такім чынам з шасцідозавай вакцынацыі перайшлі на чатырохдозавую.

**Юры ДЗЕМІДОВІЧ,**
**доктар-эпідэміёлаг Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

# Людзей за год прыбавілася толькі на Маладзечаншчыне

## А Мядзел знаходзіцца ў спісе самых малалікіх гарадоў краіны

**Нацыянальны статыстычны камітэт Беларусі апублікаваў інфармацыю па колькасці насельніцтва ў раёнах і гарадах на пачатак года.**

Паглядзім, колькі людзей жыве ў раёнах нашага рэгіёна. Таксама параўнаем з падобнай інфармацыяй на 1 студзеня 2015 года. Пабачым, што колькасць насельніцтва за год зменшылася практычна ва ўсіх раёнах. Выключэнне – толькі Маладзечанскі. Па звестках Белстата тут колькасць насельніцтва павялічылася на 276 чалавек.

Усе лічбы можаце пабачыць на інфаграфіцы.

**У Мядзеле насельніцтва меншае, у Астраўцы – расце**

Што тычыцца гарадоў, то Мядзел знаходзіцца ў топ-10 самых малалікіх гарадоў краіны. Па падліках "Нашай Нівы", сярод іх ён на шостым месцы з насельніцтвам у 6 871 чалавек. За год яно зменшылася на 53 чалавекі. Хаця да лідару спісу Дзісны, дзе жыве каля паўтары тысячы жыхароў, яшчэ далёка.

А ў Астраўцы насельніцтва, наадварот, павялічваецца. Ён увайшоў у лік гарадоў, дзе прырост насельніцтва ў пераліку на 1000 жыхароў за год быў найбольшы. Астравец па гэтым паказчыку на шостым месцы ў Беларусі. Сёлета на пачатак года тут жылі 9 569 чалавек.




Насельніцтва Валожына складала 10 329 чалавек, Ашмянаў – 16 388, Вілейкі – 26 831 Смаргоні – 37 372. У Маладзечне жылі 94 922 чалавекі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Дактары Астравеччыны будуць кансультаваць пацыентаў па тэлефоне

АСТРАВЕЦ

Цяпер дактары Астравецкай цэнтральнай раённай бальніцы – участковыя тэрапеўты і педыятры, дактары агульнай практыкі, доктар "хуткай дапамогі" і дзяжурны – у рабочы час заўсёды будуць на сувязі і змогуць па тэлефоне даць жыхарам кансультацыю, якая не патрабуе асабістай сустрэчы доктара і пацыента.

– Мы "падгледзелі" гэту практыку ў нашых суседзяў, дактароў Эстоніі і Латвіі – і вырашылі ўкараніць яе ў сябе, – распавядае намеснік галоўнага доктара ЦРБ па лячэбнай рабоце **Уладзімір Мажэйка**. – Бо вельмі часта хворым, асабліва хранічным, неабходна проста параіцца са спецыялістам, як прымаць тое ці іншае лякарства, пацікавіцца, чым можна яго замяніць, ці высветліць у доктара іншыя пытанні, для адказу на якія зусім неабавязкова ісці ці ехаць у бальніцу. Вось мы і вырашылі зрабіць нашых дактароў больш "мабільнымі" – для карысці, у першую чаргу, пацыентаў, але і медыкаў таксама: гэта дазволіць зменшыць чэргі ў паліклініцы.

Адміністрацыя бальніцы закупіла для ўсіх участковых тэрапеўтаў, педыятраў, дактароў агульнай практыкі – тых, хто часцей за ўсё мае зносіны з пацыентамі, – мабільныя тэлефоны і ўзяла на сябе выдаткі на абаненцкай плаце. І цяпер кожны ахвотны можа ў любы час – у межах працоўнага дня – пагутарыць са сваім участковым доктарам і пракансультавацца з ім па тых ці іншых пытаннях.

Загадчыца паліклінікі **Наталля Сухенка** расказала "Рэгіянальнай газеце", што новым сэрвісам яны карыстаюцца ад новага года:

– Але пакуль званкі паступаюць адзінкавыя. Відаць, нашы пацыенты не сябруюць з інтэрнэтам, дзе ўказаныя мабільныя нумары дактароў.

Пытанні, па якіх звярталіся да Наталлі Сухенкі, пераважна арганізацыйныя: як узяць талон, час працы таго ці іншага доктара.

– Я пакуль не магу сказаць, што новаўвядзенне неяк паўплывала на работу. Званкоў няшмат, яны не перашкаджаюць працаваць. Наадварот, рада, калі ўдалося дапамагчы.

**Нумары тэлефонаў дактароў, па якіх яны абавязаныя адказваць у рабочы час усім пацыентам:**

Загадчыца паліклінікі Сухенка Наталля Уладзіміраўна + 375-44-565-66-97

Загадчыца тэрапеўтычнага аддзялення паліклінікі Мажэйка Дзіна Аляксандраўна + 375-44-565-66-74

Доктар-тэрапеўт тэрапеўтычнага ўчастка №1 Пупейка Дзяніс Уладзіміравіч + 375-44-565-66-09

Доктар-тэрапеўт тэрапеўтычнага ўчастка №2 Жукоўская Генуэфа Ястратаўна + 375-44-565-67-69

Доктар-тэрапеўт тэрапеўтычнага ўчастка №3 Хаменка Генадзь Яўгенавіч + 375-44-565-67-49

Доктар-тэрапеўт тэрапеўтычнага ўчастка №4 Субаткевіч Данута Раманаўна + 375-44-565-66-85

Доктар-тэрапеўт тэрапеўтычнага ўчастка №5 Яновіч Таццяна Міхайлаўна + 375-44-565-66-38

Доктар агульнай практыкі тэрапеўтычнага ўчастка №6 Танковіч Лілія Чаславаўна + 375-44-565-66-42

Доктар-тэрапеўт тэрапеўтычнага ўчастка №7 Казлоўская Кацярына Аляксандраўна + 375-44-565-66-47

Доктар-тэрапеўт тэрапеўтычнага ўчастка №8 Будрыца Кацярына Мікалаеўна +375-44-565-66-52

Доктар агульнай практыкі Варнянскай амбулаторыі доктара агульнай практыкі (АДАП) Цвёрдая Ядвіга Леанідаўна +375-44-565-66-68

Доктар агульнай практыкі Гервяцкага АДАП Якубцэвіч Руслан Анатольевіч +375-44-565-66-79

Доктар агульнай практыкі Кемелішскай АДАП Пятроўская Валянціна Францаўна +375-44-565-66-73

Доктар агульнай практыкі Міхалішскай СУБ Колтан Генрых Генрыхавіч +375-44-565-66-72

Дыспетчар аддзялення хуткай і неадкладнай дапамогі +375-44-565-66-71

Дзяжурны доктар ЦРБ +375-44-565-67-44

Раённы доктар-педыятр Зубель Галіна Мікалаеўна +375-44-565-66-08

Доктар-педыятр педыятрычнага ўчастка №1 Драйчук Валянціна Аляксандраўна +375-44-565-66-07

Доктар-педыятр педыятрычнага ўчастка №2 Іваніцкая Марыя Казіміраўна +375-44-565-66-91

Доктар-педыятр педыятрычнага ўчастка №3 Кардзіс Іннеса Раманаўна +375-44-565-66-84

Доктар-педыятр педыятрычнага ўчастка №4 Страцэўская Вікторыя Сяргееўна +375-44-565-66-28

Пункт аховы здароўя Беларускай АЭС +375-44-565-66-70

Калі вы незадаволеныя адказам або па іншых пытаннях арганізацыі меддапамогі, вы можаце звярнуцца да прадстаўнікоў адміністрацыі ЛПУ:

намеснік галоўнага доктара па лячэбнай рабоце Мажэйка Уладзімір Часлававіч +375-44-565-66-03;

намеснік галоўнага доктара па медыцынскай экспертызе і рэабілітацыі Радзько Сяргей Барысавіч +375-44-565-67-80;

галоўны доктар Тачоны Валянцін Ігнатавіч 375-44-565-66-50.

**Наталля ТУР.**

ТЭМА НУМАРА

# Беразінскае апынаецца ў катлаване буйной вытворчасці

## На грамадскіх слуханнях зразумелі непазбежнасць свінакомплексу ля Соўлава, жыхары просяць трымацца экалагічнасці

МАЛАДЗЕЧНА

**Першага красавіка ў мястэчку Беразінскае прайшло грамадскае абмеркаванне справаздачы аб уздзеянні на навакольнае асяроддзе будучага свінакомплексу ля вёскі Соўлава.**


Фота Віталіны ГРАХОЎСКАЙ.

Зала падчас слуханняў.

Арганізатарам выступіў Валожынскі райвыканкам. Экологі разам з грамадскімі актывістамі дабіваліся гэтай сустрэчы год.

Комплекс будзе пабудаваны на мяжы з Валожынскім раёнам. Грамадскае абмеркаванне мусіла прайсці не толькі ў Маладзечанскім раёне, але і ў Валожынскім.

Падчас сустрэчы юрысты і экологі неаднаразова звярталіся да кіраўніцтва Маладзечанскага райвыканкама з пытаннем, чаму дазвол на будаўніцтва свінакомплексу быў выдадзены 9 сакавіка, калі грамадскія слуханні прызначаныя толькі на 1 красавіка. Намеснік старшыні выканкама **Генадзь Актанаровіч** некалькі разоў паўтарыў, што Маладзечанскі райвыканкам не парушыў заканадаўства, выдаўшы дазвол яшчэ да абмеркавання.

Пры гэтым, па законе, сцвярджаюць экологі, яшчэ адны слуханні павінны прайсці ў Маладзечанскім раёне. Бо пасля першай сустрэчы ў 2014 годзе прайшлі дзяржаўная і грамадская экспертызы справаздачы аб уздзеянні на навакольнае асяроддзе. І праз гэта дакумент быў значна зменены. Абмеркаванне новай версіі і мусіла б адбыцца. Аднак наколькі стала зразумела з сустрэчы ў Беразінскім, больш слуханняў не чакаецца. І нават тыя заўвагі па дакуменце, што былі выказаныя 1 красавіка, не прымусяць забудоўшчыка хаця б часова спыніць узвядзенне комплексу. Дакумент будзе ўдасканальвацца адначасова з будаўніцтвам.

Людзей у актавай зале будынка Гарадзілаўскага сельсавета сабралася шмат – усе нават не змясціліся ў памяшканні.

Распрацоўшчыца ацэнкі ўздзеяння на навакольнае асяроддзе і праекта санітарна-ахоўнай зоны **Таццяна Фёдарава** сцвердзіла, што шкода наваколлю будзе мінімізаваная. У базавую санзону часткова трапляюць чатыры населеныя пункты. Таму санітарна-ахоўную зону скарацілі. Цяпер яна складае ад 1000 м да 950-750 м.

Па інфармацыі Фёдаравай, гаспадарча-бытавыя сцёкі будуць адвозіцца на лакальныя ачышчальныя збудаванні з наступным адводам на фільтруючую дрэну. Вытворчыя сцёкі будуць вывозіцца на ачышчальныя збудаванні Маладзечна. Гнойныя сцёкі па падземнай каналізацыйнай сістэме будуць вывозіцца ў тры лагуны, дзе будуць раздзяляцца на цвёрдую і вадкую фракцыі і пасля абеззаражвання вывозіцца на палі. Дажджавыя сцёкі будуць забруджаныя настолькі, наколькі яны забруджваюцца ў звычайным горадзе ад руху аўтатранспарту і ўзважанымі рэчывамі.

Праекціроўшчык, прадстаўнік ізраільскай фірмы "Агрыка" **Аркадзь Юдасін**, расказаў, што адначасова на свінакомплексе будуць гадавацца 50-54 тысячы свіней. Па словах Юдасіна, 1,5-2 тысяч гектараў сельгасугоддзяў будзе дастаткова, каб утылізаваць увесь гной. Для гэтага выдзеленыя землі Гарадзілаўскага СВК.

**Спецыялісты запэўнілі, што гной у лагунах смярдзець не будзе. Аднак калі яго будуць вывозіць на палі, давядзецца пацярпець.**

Сярод скаргаў, якія выказвалі людзі, былі падзенне цэн на нерухомасць; непралічаныя дзеянні падчас форс-мажораў; інтэнсіўнасць руху транспарту, які будзе абслугоўваць свінакомплекс, і адсутнасць аб'язных дарог, якія б вялі не праз населеныя пункты.

Таксама казалася пра тое, што не было праведзена ніякіх даследаванняў складу вады ў мясцовых калодзежах. Калі праз некалькі год пасля ўвядзення ў эксплуатацыю свінарніка нехта з жыхароў пачне скардзіцца на дрэнную ваду, ім заўсёды змогуць адказаць – "яна такая і была".

Былі і іншыя заўвагі. Напрыклад, пра недастатковасць гнойных лагун. Адна лагуна будзе запаўняцца 2,5 месяца. А захоўвацца гной там мусіць 7,5 месяца. За 5 наступных месяцаў запоўняцца дзве іншыя лагуны. І 2,5 месяца не будзе куды дзець новы гной, бо першая лагуна яшчэ не вызвалілася. Таксама праектантам была зробленая заўвага, што ў справаздачы не выконваецца норма санітарна-ахоўнага разрыву да жылых памяшканняў, якая мусіць складаць 2 км.

Жыхарка Беразінскага **Наталля Філон** заклікала не будаваць свінакомплексаў: мястэчка з усіх бакоў атачае вытворчасць. З аднаго ў паўтара кіламетрах плануюць пабудаваць бычнік. З іншага ў трохстах метрах – вытворчасць ліцейнага абсталявання для халадзільнікаў. У васьмістах метрах – вытворчасць па перапрацоўцы пластмас і металу. Акрамя таго, кампанія "Вялес-Міт", інвестар свінакомплексу ля Соўлава (каля 7 км ад Беразінскага), збіраецца будаваць яшчэ адзін вялізны свінакомплекс ля Палачанаў. А гэта – прыкладна столькі ж ад Беразінскага. Што з боку Соўлава, што з боку Палачанаў няма лясоў, якія б абаранялі ад смуроду. Такім чынам аграгарадок апынецца ў катлаване са шкодных прадпрыемстваў.

Многія выступоўцы, зазначаючы непазбежнасць свінакомплексу, адзначылі прынамсі неабходнасць яго экалагічнасці. Падагульненнем стаў зварот аднаго з выступоўцаў да людзей: "Кожны з вас каштуе больш, чым цэлы статак свіней".

Віталіна ГРАХОЎСКАЯ.



ЛІЧБА НУМАРА

**31** сярэдні ўзрост мужчын, калі яны бяруць шлюб, на Маладзечаншчыне

**29** сярэдні ўзрост жанчын, калі яны выходзяць замуж

Паводле Маладзечанскага ЗАГСа

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 31.03 руб. | 7.03 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 20 133,00 | **20 236,00** |
| Еўра | 22 779,00 | **22 977,00** |
| Злоты | 5 330,91 | **5 426,17** |
| Расійскі рубель | 297,49 | **295,36** |
| Грыўня | 764,60 | **776,02** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 6.03** | | |
| Еўра | 22400/22800 | **22700/23050** |
| Долар ЗША | 20000/20270 | **20150/20300** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 30.03 Цана руб. | 6.03 |
|---|---|---|
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 169 900 | **169 900** |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | **58 500** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 900 | **28 900** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | **70 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 42 500 | **41 500** |
| Селядзец, 1 кг | 59 000 | **57 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 138 000 | **135 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 500 | **14 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 19 500 | **19 500** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 16 500 | **16 500** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | **24 000** |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | **6 600** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6 900 | **6 900** |
| Часнок, 1 кг | 73 500 | **69 500** |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 22 500 | **14 900** |
| Морква, 1 кг | 7 500 | **7 500** |
| Баклажаны, 1 кг | 59 000 | **54 500** |
| Лімоны, 1 кг | 42 900 | **40 000** |
| Апельсіны, 1 кг | 27 500 | **27 500** |
| Мандарыны, 1 кг | 25 000 | **26 500** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 24 500 | **24 500** |
| Ківі, 1 кг | 34 500 | **34 500** |
| Буракі, 1 кг | 5 900 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 33 000 | **38 500** |
| Агуркі, 1 кг | 30 000 | **27 000** |
| Перац, 1 кг | 75 000 | **68 900** |
| Вінаград, 1 кг | 35 000 | **45 000** |
| Бананы, 1 кг | 28 000 | **27 900** |
| Гранаты, 1 кг | 32 000 | **29 900** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 55 000 | **57 500** |
| Яблыкі, 1 кг | 14 000 | **14 000** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 25 000 | **29 000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 60 000 | **60 000** |
| Бульба, 1 кг | 2 500 | **2 500** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

## Як убачыў міліцыянераў, выкінуў псіхатроп

ВІЛЕЙКА

**Уступіў у законную сілу прысуд у дачыненні да 24-гадовага віляйчаніна. Выязное судовае пасяджэнне адбылося 22 сакавіка. Праводзілі яго ў Вілейскім дзяржаўным каледжы.**

– Зрабілі так з мэтай прафілактыкі. Бо абвінавачаны – малады хлопец, ненашмат старэйшы за выпускнікоў каледжа, – патлумачыла памочнік пракурора Вілейскага раёна **Наталля Стрэж.**

Летась 12 лістапада віляйчанін купіў ва неўстаноўленага мужчыны на вуліцы Талстога псіхатропнае рэчыва масай, не менш за адзін грам.

Частку дома змяшаў з тытунём і выкурыў. Потым выйшаў у горад, выпіваў. Астатняя частка псіхатропнага рэчыва па-ранейшаму ў яго была з сабой – у кашальку. Гэта і падвяло хлопца.

– Было ўжо позна ўвечары, пасля 23 гадзін. Супрацоўнікі міліцыі правяралі ахову грамадскага парадку ў мікрараёне Воўкаўшчына. Іх увагу прыцягнула купка маладых людзей, сярод якіх быў і гэты хлопец, – дадала Наталля Стрэж. – Пабачыўшы міліцыянераў, ён спужаўся і выкінуў рэчыва. Аднак яго знайшлі на месцы здарэння. Хлопца затрымалі.

Яго дзеянні кваліфікавалі як незаконнае, без мэты збыту, набыццё і захоўванне псіхатропных рэчываў.

Хлопец судзімасці не мае, не працуе. Змякчальнай акалічнасцю падчас судовага пасяджэння палічылі чыстасардэчнае раскаянне ў злачынстве.

У выніку суд прыгаварыў віляйчаніна да абмежаванні волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу на чатыры гады.

**Аддзел інфармацыі.**

## З-за дзяўчыны разбіў бутэльку з півам аб галаву знаёмага

АСТРАВЕЦ

У сварцы, якая адбылася 18 кастрычніка ў Гервятах, малады чалавек ударыў бутэлькай па галаве знаёмага.

24-гадовы мясцовы жыхар у той дзень пайшоў у кафэ за півам, хаця ўжо быў выпіўшы.

У двары кафэ заўважыў свайго знаёмага, з якім у яго быў раней канфлікт з-за дзяўчыны. Некалькі разоў папрасіў таго адысці ўбок пагутарыць адзін на адзін. Аднак той адмаўляўся. Тады зламыснік ударыў бутэлькай піва па галаве свайго знаёмага.

Бутэлька разбілася, аскепкамі парэзала галаву.

Суд Астравецкага раёна прызнаў вінаватым жыхара Гервятаў і прызначыў яму штраф у памеры 40 базавых велічынь (8 мільёнаў 400 тысяч рублёў).

**Паводле прыгавора суда Астравецкага раёна.**

## Пасля звароту работнікаў станцыі Алёхнавічы транспартная міліцыя палепшыла кантроль на чыгунцы

МАЛАДЗЕЧНА

У студзені работнікі станцыі звярнулі ўвагу кіраўніцтва на тое, што вечарам і ноччу неабходна праводзіць прафілактычныя мерапрыемствы.

Яны хацелі гэтым папярэдзіць пераход чыгункі ў неналежных месцах, а таксама палепшыць працу з асобамі без пэўнага месца жыхарства.

Пасля заявы актывізавалі працу ў адзначаных накірунках.

З гэтага часу на станцыі Алёхнавічы знайшлі дзвюх асоб без пэўнага месца жыхарства, якіх паставілі на ўлік у Маладзечанскае аддзяленне ўнутраных спраў на транспарце. Для гэтай групы праводзяць мерапрыемствы па сацыяльнай рэабілітацыі пастаянна.

Падчас апрацоўкі станцыі Алёхнавічы да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнулі 15 чалавек.

Ад студзеня супрацоўнікі Маладзечанскага АУСТ усяго да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнулі 163 чалавекі. З аб'екта чыгункі вывелі чатырох чалавек без пэўнага месца жыхарства.

Супрацоўнікі Маладзечанскага АУСТ правялі 63 прафілактычныя выступленні. Для бяспекі суправаджалі 153 рэйсы электрычак.

Паважаныя чытачы! Ваша меркаванне для нас вельмі важнае. З любымі прапановамі вы можаце звяртацца ў Маладзечанскае АУСТ на адрас: Маладзечна, вуліца Таўлая, 6.

**Ігар САВАЧКІН, намеснік начальніка Мінскага АУСТ.**

# На дзвюх запраўках кіроўцы пашкодзілі калонкі

МАЛАДЗЕЧНА

**Адзін з інцыдэнтаў адбыўся на запраўцы, якая знаходзіцца на выездзе з горада ў бок Мінска па Вялікім Гасцінцы.**



Фота vernidivici.by

Заправіўшыся, упэўніцеся, што дасталі з бака пісталет.

30 сакавіка каля 17:20 59-гадовы маладзечанец на "Аўдзі-А6" прыехаў заправіць аўто. Уставіў пісталет у бак, пайшоў аплачваць. Апаратарка аўтазаправачнай станцыі ўдакладніла, што яму трэба праехаць да іншай калонкі.

Калі кіроўца выйшаў з будынка, забыўся вярнуць пісталет на месца і паехаў. Пісталет абарваўся.

**Кіроўцу аштрафавалі на 0,5 базавай велічыні (105 000 рублёў).**

Яшчэ ён не меў страхоўкі, за што вынеслі штраф у 10 базавых велічынь – 2 100 000 рублёў.

Другі інцыдэнт адбыўся 29 сакавіка каля 12:30 па Лібава-Роменскай на запраўцы каля пуцеправода.

52-гадовая жанчына "Рэно-Меган-Сцэнік" прыехала заправіць аўтамабіль. Таксама забылася вярнуць на месца пісталет, пачала выязджаць і пачула воплеск. Спынілася, выйшла з машыны і ўбачыла, што пашкодзіла заправачную калонку.

Як потым распавяла сама, яна вельмі спяшалася, таму з'ехала.

Пра здарэнне міліцыі паведаміла аператарка заправачнай станцыі.

Раніцай наступнага дня супрацоўнікі міліцыі адшукалі жанчыну і склалі пратаколы. Яе пазбавіць правоў кіравання на тры месяцы.

Пра здарэнні распавёў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**.

**Аддзел інфармацыі.**

## У падвале пяціпавярхоўкі распаліў вогнішча

ВІЛЕЙКА

Каля паловы на дзявятую вечара 31 сакавіка паступіла паведамленне ад жыхароў пяціпавярховага дома па вуліцы Гагарына, 9 у Вілейцы.

Людзі адчулі пах дыму. Прайшлі па ўсіх паверхах – нідзе нічога не гарэла. Спусціліся ў падвал – там убачылі невялікае вогнішча. На трубе ляжаў невядомы мужчына, у яго абгарэла нага.

Выклікалі "хуткую дапамогу". Мужчыну шпіталізавалі з апёкамі першай-чацвертай ступеняў (15% цела).

Падвал у доме быў адчынены, зайсці мог любы. Гэтым і скарыстаўся мужчына і распаліў там вогнішча: можа, хацеў есці прыгатаваць ці так для чаго, расказаў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш.**

## Прыехаў купляць аўтамабіль, а потым скраў з яго дэталі

МЯДЗЕЛ

Аўтамабіль "Аўдзі-80" стаяў на вуліцы Школьнай. 2 лютага з яго скралі дэталі: карбюратар, паветраны фільтр, кажух. Гаспадару прычынілі страты на суму каля двух мільёнаў рублёў.

Пэўны час справа была нераскрытая, а ў сакавіку ўстанавілі асобу падазронага. Гэта малады жыхар вёскі Старлыгі на Мядзельшчыне.

Ён хацеў набыць гэты аўтамабіль. Прыехаў, агледзеў яго, але нешта не задаволіла. Затое заўважыў, што ў "Аўдзі" лёгка адкрываецца капот.

Праз некалькі дзён прыехаў яшчэ раз і скраў дэталі, расказаў старшы следчы Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта **Максім Валеўка.**

Узбудзілі справу за крадзеж. Яе накіравалі ў суд. Дэталі вярнулі ўладальніку.

**Аддзел інфармацыі.**

## На Ашмяншчыне мужчына паліў смецце і абсмаліў ногі

АШМЯНЫ

Здарэнне адбылося 2 красавіка ў вёсцы Гінеўцы Ашмянскага раёна.

Як распавёў сам 58-гадовы пацярпелы, 2 красавіка ён вырашыў спаліць на прысядзібным участку смецце.

Каб лепей гарэла, абліў яго палівам, а калі паднёс запалку, куча ўспыхнула полымем.

Паколькі мужчына быў у шортах, яму абсмаліла ногі.

Пацярпелы звярнуўся па медцапамогу толькі 4 красавіка. З апёкамі 3-й ступені, гэта 8% цела, яго шпіталізавалі.

У Мінскай вобласці за суткі, ад 6 гадзін раніцы 4 красавіка да 6 гадзін раніцы 5 красавіка, зарэгістравана 58 выездаў на тушэнне сухой расліннасці.

У Гродзенскай вобласці за суткі зарэгістравана шэсць узгаранняў травы.

**Па інфармацыі Гродзенскага абласнога ўпраўлення МНС.**

## Амаль чатыры мільёны за судака плюс штраф

Забарона на лоўлю судака ва ўсіх рыбалоўных угоддзях рэспублікі дзейнічае ад 1 красавіка да 30 мая.

– Калі злавілі судака у гэты перыяд, яго неабходна адпусціць, – тлумачыць старшы дзяржінспектар Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Уладзімір Хіла.**

Незаконная здабыча судака цягне накладанне штрафу ў памеры ад 20 да 50 базавых велічынь. Таксама давядзецца пакрыць нанесеную навакольнаму асяроддзю шкоду: 18 базавых велічынь, ці 3 780 000 рублёў за кожнага злоўленага ў час забароны судака.

**Аддзел інфармацыі.**

# Ільянская школа ўзяла прызы ад “РГ”

**Падчас конкурсу “Раскажы пра свой рамонт” школьнікі атрымалі не толькі падарункі, але і знайшлі новых сяброў.**




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Злева направа: дызайнер-канструктар студыі мэблі “Інтэк” Ірына Казановіч, заснавальнік ТАА “Саюра” Аляксандр Мядзелка, вучаніца Юля Ярашонак, спецыяліст па рэкламе “РГ” Жанна Горбань, вучаніца Юля Каржэвіч, бібліятэкарка Ільянскай СШ Наталля Шабуня.**

У конкурсе, арганізаваным “РГ” з падтрымкай спонсараў, было чацвёра ўдзельнікаў. Адна маладзечанка і адна мінчанка прапанавалі на суд наведнікаў нашага сайта свае спальні. А да іх далучыліся не толькі вучні Ільянскай сярэдняй школы, але нават Шарсцінскай Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці.

У галасаванні паўдзельнічалі 323 галасы. Па яго выніках перамаглі вучні з Гомельшчыны. Але яны палічылі, што будзе складана скарыстацца прызамі з Павілля і вырашылі перадаць свае падарункі школьнікам з Ілы. Гэтым яны выказалі салідарнасць і ўзаемасувязь паміж школамі.

Таму на падсумаванне вынікаў конкурсу за “круглым сталом” у рэдакцыі сабраліся спонсары і ільянцы – вучаніцы 4 класа **Юля Каржэвіч** і **Юля Ярашонак**, а таксама бібліятэкарка **Наталля Шабуня**.

Заснавальнік ТАА “Саюра” **Аляксандр Мядзелка** і дызайнер-канструктар студыі мэблі “Інтэк” **Ірына Казановіч** уручылі сертыфікаты на скідку на прадукцыю ў сваіх фірмах. Сертыфікат ад ІП **Тацяны Бойкі** ўручыла спецыяліст па рэкламе “РГ” **Жанна Горбань**.

У размове за чаем Ірына Казановіч распавяла, што пакупнікі не заўсёды добра ўяўляюць, якім бачаць вынік рамонту. Таму для іх вельмі дарэчы паслуга 3D-мадэлявання, якую іх кампанія прапануе бясплатна. Аляксандра Мядзелку папрасілі падзяліцца сакрэтам добрых вокнаў. Ён параіў не гнацца за самымі таннымі цэнамі, таму што такія вокны могуць пакідаць моцны пах пластыку.

А дзяўчынак мы папрасілі памарыць, якім бы яны зрабілі свой клас, калі б мелі чароўную палачку. Юля Ярашонак уявіла ружовыя сцены, якія б не калоліся, і паліцу, на якой бы было шмат цікавых кніжак. Юля Каржэвіч загадала новы стол для класнай кіраўніцы **Тацяны Максімовіч**.

Наталля Шабуня адзначыла, што спатрэбяцца падарункі, хаця б у той жа бібліятэцы.

Арганізатары конкурсу, работнікі “Рэгіянальнай газеты”, палічылі, што салідарнасць школ у гэтым конкурсе можа перарасці ў сапраўднае сяброўства паміж вучнямі. А каб сімвалічна замацаваць гэта, падарылі ў клас ільянскіх вучняў гадзіннік. Такі самы мы перададзім у Шарсцінскую школу на Гомельшчыне, каб дзеці маглі звяраць паміж сабой час.

– Добра было б сустрэцца з тымі хлопчыкамі і дзяўчынкамі, якія перадалі нам прызы, – адзначыла Юля Ярашонак.

І сапраўды, магчыма, “РГ” зможа адшукаць спонсараў, якія дапамаглі б здзейсніць такую сустрэчу і падтрымаць знаёмства паміж дзецьмі з розных куткоў краіны, якія пазнаёміліся зусім выпадкова. Шаноўныя чытачы, ці ёсць сярод вас тыя, хто далучыўся б да такой добрай справы? Калі так, то званіце ў рэдакцыю на нумар: (80176) 74-71-00.

### Ільянцы перадаюць прывітанне

Зварот-прывітанне да вучняў Шарсцінскай школы Веткаўскага раёна:

“Дарагія сябры! Мы вельмі рады, што “Рэгіянальная газета” пазнаёміла нас з вамі, няхай сабе і завочна. Мы ўпэўнены, што вы добрыя, разумныя і вясёлыя. А яшчэ любіце сваю школу. Вы так цікава расказалі пра яе, што ў некаторых з нас нават з’явілася жаданне прыехаць да вас і паглядзець усё “ў жывую”. Вялікі вам дзякуй за тое, што ўсе падарункі вы перадалі нашай школе. Гэта, канешне, радасна, але ёсць і пачуццё няёмкасці: усё ж вы, а не мы занялі першае месца.

І мы сапраўды шкадуем, што ў вас не атрымалася прыехаць. Паверце, у нашым рэгіёне ёсць на што паглядзець. А яшчэ тут працуе таленавіты і пазітыўны калектыў – рэдакцыя “Рэгіянальнай газеты”. З удзячнасцю і цеплынёй, вучні Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця.

**Аддзел інфармацыі.**

**Больш фота на сайце**




## Выйграйце сертыфікат на паход у магазін

“Рэгіянальная газета” запускае новы конкурс для шаноўных чытачоў – “Кіруй грашыма”.

Гэтым разам мы хацелі б пасадзейнічаць разумнаму кіраванню грашмі. Ці ўсе вашы пакупкі рацыянальныя? Ці зможаце вы навучыць іншых, як хадзіць у магазін разумна?

Для ўдзелу ў конкурсе мы запрашаем усіх, хто займаецца хатняй гаспадаркай. Дашліце сямейнае фота за вячэрай на нашу пошту regionnews@rh.by да 13 красавіка. Напішыце некалькі сказаў пра сваю сям’ю і абавязкова пазначце свой нумар тэлефона. На нашым сайце rh.by. 14 красавіка мы запусцім галасаванне за лепшае сямейнае фота. Галасаванне будзе завершана 15 красавіка.

Пераможцу мы запросім 16 красавіка за пакупкамі. Ён атрымае сертыфікат на адзін мільён рублёў, за які павінны будзе набыць неабходныя прадукты і іншыя рэчы на тыдзень.

Пасля спіс пакупак мы прааналізуем са спецыялістамі для таго, каб павучыцца складаць рацыянальны спіс пакупак на тыдзень.

## Атрымайце кансультацыю ад юрыстаў

У вас ёсць пытанне, але няма адказу? Задайце яго нам, і мы паспрабуем знайсці таго, хто вам дапаможа.

“Рэгіянальная газета” распачынае акцыю “Ведай пра свае правы”. Дасылайце пытанні на праваабарончую і юрыдычную тэмы на адрас regionnews@rh.by да 14 красавіка. У лісце апішыце праблему і дадайце свой нумар тэлефона.

Пра вынікі акцый мы будзем паведамляць у наступных нумарах “РГ”, а таксама на сайце rh.by.



## Віляйчанін стаў лаўрэатам фестывалю ў Польшчы

ВІЛЕЙКА

Настаўнік музыкі вілейскай гімназіі №2 **Уладзімір Версан** удзельнічаў у традыцыйным міжнародным фестывалі-конкурсе “Łobeska Baba Wielkanocna-2016”. Праводзіцца ён у горадзе Лобез у Польшчы. У ім удзельнічалі музыкі з Польшчы, Беларусі, Украіны, Расіі і краін Прыбалтыкі.




Фота забяспечанае Уладзімірам Версанам

**Уладзімір Версан.**

Уладзімір выступаў у народным жартоўным гурце разам з музыкам з Чэрвеня **Андрэем Каленікам**. Той іграў на цымбалах, віляйчанін – на баяне.

На конкурсе яны выканалі тры музычныя кампазіцыі: сярод іх і беларускі танец.

І сталі ўладальнікамі Дыплома лаўрэата першай ступені міжнароднага конкурсу і статуэткі “Лобезскай бабы”.

Прымалі яны ўдзел у шэсці і конкурсе “Велікодных пальмаў”.

– Уражанні засталіся самыя найлепшыя, – расказаў Уладзімір. – Андрэй Каленік і яго жонка Аксана ўжо некалькі год сябруюць з Лобезам. Таму нас там прымаюць заўсёды шчыра і ветліва. Музыкі, якія бяруць удзел у фестывалі, заўсёды ў добрым настроі, шчыра падтрымліваюць адзін аднаго. У 2015 годзе на гэтым конкурсе выступаў дудар **Сяргей Ярук**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Удзельнікі народнага калектыву аўтарскай песні "Элегія" (злева направа) Аксана Жук, Уладзімір Лапцік, Таццяна Захарыч, Уладзімір Цанунін.

## "Песні над Віліяй" сабралі лепшае з праектаў "Элегіі"

ВІЛЕЙКА

**Мінчане 22 сакавіка знаёміліся з творчасцю народнага калектыву аўтарскай песні "Элегія" Вілейскага цэнтра эстэтычнага выхавання.**

У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбыўся літаратурна-музычны вечар "Нясіце вясну да людзей". Прысвячаўся ён 110-гадавіне творчай дзейнасці Якуба Коласа і Году культуры. Гучала паэзія класіка ў выкананні рэжысёра Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі **Алега Вінярскага**, мастацкае чытанне **Валянціны Цітовіч**, песні "Элегіі". У тым ліку, з новага дыска "Песні над Віліяй".

У ім знайшлі адлюстраванне асноўныя праекты "Элегіі" за апошнія гады, якія здзяйсняюць разам з землякамі. У праекце "Святло Раства Хрыстова", што ажыццяўляўся ў супрацоўніцтве з Вілейскай царкоўнай благачыннай акругай, сабраныя песні на духоўную тэматыку. Праект "Вайны дзве – памяць адна" "Элегія" ладзіць з мясцовым дабрачынным гісторыка-культурным фондам памяці Першай сусветнай вайны "Крокі" ў Забродздзі (Барыс і Валянціна Цітовічы). У ім прадстаўленыя песні на словы князёў **Уладзіміра Палея** і **Васіля Сумбатава**. У агульны праект з Беларускім радыё "Незабыўныя імёны Вілейшчыны" ўвайшлі песні на словы мясцовых паэтаў **Івана Лашуткі** і **Ганны Новік**. У праекце "Вілейская хваля" гучаць аўтарскія песні.

Усяго ў дыск увайшлі 20 песень. Шмат сярод іх твораў на словы мясцовых аўтараў: на вершы ўзгаданых ужо Івана Лашуткі і Ганны Новік, сяброў Саюза пісьменнікаў Беларусі **Уладзіміра Цануніна і Віктара Кажуры**, а таксама **Таццяны Цвятковай**, **Аксаны Жук**, **Клаўдзіі Дубовік**, беларускіх паэтаў **Людмілы Урублеўскай**, **Навума Гальпяровіча**, **Васіля Жуковіча**, **Аліны Легастаевай**.

### Новы дыск – штуршок для творчасці

Калектыў працуе ў накірунку літаратурна-аўтарскай песні. У асноўным складзе "Элегіі" – аўтары-выканаўцы **Таццяна Захарыч**, **Уладзімір Лапцік**, Уладзімір Цанунін, **Людміла Алеолава**, **Аксана Жук**, Валянціна Цітовіч (мастацкае чытанне), а таксама мясцовыя паэты.

Удзельнікі "Элегіі" ўжо 20 год працуюць у аўтарскай песні. Гэты дыск для калектыву – новы штуршок для творчасці і своеасаблівае падвядзенне вынікаў.

– Самае галоўнае, што сёння мы павінны несці людзям святло слова: аўтарскую песню, паэзію. А яшчэ папулярызаваць паэзію сваіх землякоў. Якраз выданне дыска гэтаму спрыяе, – кажа кіраўнік калектыву **Таццяна Захарыч**. – У нас на Вілейшчыне багатая літаратурна-музычная спадчына, якую ствараюць таленавітыя людзі.

Раней адбылася прэзентацыя дыска ў Палацы культуры.

– Мы вельмі ўдзячныя ўсім тым, хто дапамагаў нам, хто прыйшоў у залу, хто слухаў нашы вершы і песні. Спадзяюся, што ў нас будзе яшчэ не адзін канцэрт для нашых віляйчан, – дзеліцца Таццяна Захарыч. – Шчыра ўдзячныя ўсім землякам, якія падтрымалі нашы праекты. Яны будуць працягвацца.

Яшчэ запланаваныя выданне дыска і прэзентацыя паэтычных зборнікаў Уладзіміра Цануніна, дыска, прысвечанага творчасці паэтэсы Ганны Новік, і іншае.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




Анастасія Надудзік каля сваіх работ.

# На выставе захацелі купіць твор 15-гадовай мастачкі

МАЛАДЗЕЧНА

**Персанальная выстава Анастасіі Надудзік "Краявіды з конямі" адкрылася ў Палацы культуры 31 сакавіка.**

На выставе прадстаўленыя лепшыя пейзажы 15-гадовай мастачкі, намаляваныя за чатыры гады заняткаў у народнай студыі выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Палаца культуры. Усе яны аб'яднаныя адной тэмай: на іх адлюстраваныя любімыя жывёлы Анастасіі – коні. Часцей за ўсё дзяўчына малюе іх па памяці, але пры магчымасці з задавальненнем ездзіць верхам.

Кожная работа юнай мастачкі пранікнёная і запамінальная. Карціна "Яблык з роднага саду" прысвечаная падзеям Вялікай Айчыннай вайны, "Эпоха паланэзу", "Сустрэча ля фантана" і іншыя, напісаныя ў Залессі ля маёнтка Міхала Агінскага.

– Не часта даводзіцца адкрываць выставу аднаго чалавека, бо не ў кожнага атрымліваецца назбіраць пэўную колькасць прац высокага ўзроўню, – гаворыць кіраўніца студыі **Галіна Сушко**. – Тое, як працуе Насця, выклікае толькі здзіўленне. Дзіця самастойна прыдумвае складаныя кампазіцыі, у якіх ёсць адносіны паміж персанажамі, кожнай дэталі надаецца вялікая ўвага. Яна сур'ёзна ставіцца да сваёй працы, і гэта павінна паслужыць прыкладам для многіх з нас.

– Сімвалічна, што сённяшняя выстава адкрываецца ў Год культуры. Гэта даказвае, што Маладзечна – дастойная культурная сталіца, бо тут жывуць і працуюць таленавітыя людзі. Тое, што ствараецца іх рукамі, можна назваць сапраўднымі шэдэўрамі, – адзначыла намеснік дырэктара Палаца культуры **Галіна Акулёнак**.

Яна назвала Анастасію "нашым брыльянтам і алмазам", падарыла ёй каталог работ заснавальніка народнай студыі **Кастуся Харашэвіча** і пажадала, як усім мастакам, каб "фарбы і пэндзаль ніколі не перасыхалі". Яшчэ адным падарункам для аматаркі жывёл стаў верш Маякоўскага "Хорошее отношение к лошадям" у выкананні кіраўніка духоўна-патрыятычнага аб'яднання "Светач" **Ларысы Сысун**.

Падтрымаць дачку ў такі важны дзень прыйшла і мама дзяўчынкі **Вольга Надудзік**. Яна выказала падзяку педагогу студыі, якая заўважыла і развіла талент дачкі, сабрала ўсе яе працы, некаторыя з якіх не бачылі нават самі бацькі.

Па словах наведнікаў, яны былі ўражаныя ўбачаным. Адна з іх, доктар **Ніна Дуброўная**, нават захацела купіць карціну "Новы год прыйшоў":

– Хачу падарыць гэтую карціну сваёй пляменніцы, якая жыве ў Германіі. Работа адлюстроўвае радаснае светаадчуванне, светаўспрыманне чалавека, які стаіць на парозе Новага года і Калядаў. А гэта заўсёды надзеі на нешта новае, лепшае, прыгожае.

Анастасія – удзельніца шматлікіх творчых конкурсаў і неадноўчы была ўзнагароджаная ганаровымі граматамі і дыпломамі. З нядаўняга часу дзяўчына пачала маляваць графіку і цяпер плануе стварыць серыю графічных работ.

**Святлана КІСЛАЯ,**
**школа журналістыкі "Маладзік".**

## Народныя і ўзорныя калектывы і персанажы з фільма "Вяселле ў Малінаўцы" збяруцца на адной сцэне

ВІЛЕЙКА

У Палацы культуры 8 красавіка пройдзе 18-ы абласны агляд народных і ўзорных аматарскіх калектываў. Ацэніць творчасць калектываў з Вілейшчыны камісія з Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці.

У праграме выступленні ўзорных ансамбляў гітарыстаў "Адэліта" і скрыпачоў "Камплімент" дзіцячай школы мастацтваў, народнага хору ветэранаў вайны і працы, народнага вакальнага гурту "Суквецце", народнага ансамбля "Весялінка" Палаца культуры, народнага хору "Любанія" Любанскага цэнтра культуры і вольнага часу.

Пройдзе выстава вырабаў людзей пажылога ўзросту.

Цікавым абзацам будзе рэжысёрскае рашэнне канцэрта – у сюжэтную лінію ўвядуць каларытных персанажаў з фільма "Вяселле ў Малінаўцы", расказала намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо**.

Пачатак – у 18 гадзін. Уваход вольны.

**Аддзел інфармацыі.**

## Янка Купала і Першая сусветная

МЯДЗЕЛ

У музеі народнай славы можна пазнаёміцца з выставачным праектам "Я – шлях, якому век няма спакою..."

Праект прысвечаны жыццю і творчасці Янкі Купалы ў гады Першай сусветнай вайны. На выставе дэманструюць стэнды з фотаздымкамі, звесткамі і вершамі класіка беларускай літаратуры. Працягнецца яна да канца красавіка.

Праект гэты – з фонду Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

Раней яго дэманстравалі ў к. п. Нарач (Купа) падчас міжнароднай навукова-гістарычнай канферэнцыі "Нарачанская аперацыя 1916 года: гісторыя і сучаснасць".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПА КРАІНАХ І КАНТЫНЕНТАХ З ЛЫЖКАЙ

# Навучэнцы вучыліся рабіць польскую салату з гародніны

МАЛАДЗЕЧНА

**31 сакавіка адкрыліся Дні польскай культуры, якія праводзяць супрацоўнікі залы літаратуры на замежных мовах.**

Першы дзень быў прысвечаны польскай кухні, якая з'яўляецца часткай культуры польскага народа, яе гісторыі традыцый і глабалізацыі. Аб нацыянальных традыцыях палякаў, пра асаблівасці польскай кухні і таямніцы падрыхтоўкі самых вядомых страў даведаліся навучэнцы 305 групы гандлёва-эканамічнага каледжа.

Яны не толькі даведаліся пра стравы, але і самі рабілі польскую салату пад кіраўніцтвам супрацоўнікаў залы літаратуры на замежных мовах **Таццяны Летуновой** і **Ларысы Берташ**. Галоўнымі кухарамі сталі **Уладзіслаў Бурко** і **Дзмітры Казакевіч**, а іх актыўным памочнікам стаў **Аляксандр Стэфановіч**.

У хлопцаў усё атрымалася. Яны самі сервіравалі стол і атрымалі пачастунак "Польскі піраг" ад бібліятэкараў залы літаратуры на замежных мовах і піражкі ад бібліятэкара гандлёва-эканамічнага каледжа.

Бібліятэкары правялі віктарыну. Найбольш балаў набраў **Дзяніс Пахом**. Пераможца віктарыны і самыя актыўныя ўдзельнікі атрымалі ў падарунак кнігі з рэцэптамі краін еўрапейскай кухні.

Гісторыя Польшчы наклала свой адбітак на кухню. Палякі як жыхары Паўночнай Еўропы аддавалі заўсёды перавагу кухні багатай і сытнай, а яшчэ крыху салодкай. Пасля таго як каралём у 1333 годзе стаў Казімір, сын чэшскай дынастыі, адбыліся змены і ў польскай кухні. Кароль, закахаўшыся ў прыгожую яўрэйку, дапусціў, што ў Польшчу з усёй Еўропы пачалі перасяляцца гнаныя яўрэі.

**Паступова польскі народ пераняў і цэлы шэраг яўрэйскіх страў, мадыфікаваных на свой лад.**

Сярод такой ежы – фаршыраваная рыба з вынятымі косткамі, фаршыраваная гусіная шыйка. Многія стравы пад уплывам яўрэйскай кухні палякі гатуюць на гусіным, а не на свіным тлушчы.

Элементы італьянскай кухні прыйшлі ў польскую пасля таго, як кароль Жыгімонт I ажаніўся ў 1518 годзе з Бонай з міланскага роду Сфорца. Магчыма, тут і трэба шукаць карані прыхільнасці жыхароў Польшчы да салодкіх кандытарскіх страў. Суседства Польшчы з Прусіяй дапамагло распаўсюджванню і вырошчванню бульбы.

Палякі прыдумалі, напрыклад, бульбяную запяканку. Дзякуючы сувязям з Францыяй яшчэ напалеонаўскіх часоў, у Польшчы ўвайшоў у моду стыль рафінаваны і элегантны.

Палякі любяць прыгатаваць у гарачыя летнія дні халодныя супчыкі з клубніц і чарэшні, яблыкаў і груш ці лясных ягад.

Палякі не прамінуць прыгатаваць і такую любімую ежу, як бігас, чыя назва атрыманая ад лацінскага выразу і азначае "два смакі". Складаны смак у стравы атрымаўся ад злучэння свежай капусты з кіслай.

**Аддзел інфармацыі.**

## Салата з гародніны

*Склад: 4 морквы, 2 карані пятрушкі, 3 бульбіны, 1 корань сельдэрэю, 6 салёных агуркоў, 5 адварных яек, 1 слоік зялёнага гарошку, 2 яблыкі, 1 сталовая лыжка гарчыцы, 6 сталовых лыжак маянэзу, соль, перац.*


Фота забяспечанае Таццянай ЛЕТУНОВАЙ.

Карані, бульбу, яйкі і моркву варым, чысцім, рэжам кубікамі. Салёныя агуркі таксама рэжам кубікамі. Дадаём парэзаныя яблыкі. Запраўляем маянэзам і гарчыцай. Солім і перчым. Ставім у халадзільнік на гадзіну. Пры падачы ўпрыгожваем зелянінай.

---

# УП "Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі" інфармуе: у сувязі с рамонтам чыгуначнага моста на перагоне Беларусь - Радашкавічы 12 красавіка з 4:00 да 23:55 НЕ БУДЗЕ АЖЫЦЦЯЎЛЯЦЦА СКРАЗНЫ РУХ цягнікоў рэгіянальных ліній эканомкласа ад станцыі Маладзечна да станцыі Мінск-Пасажырскі і назад

- Цягнікі рэгіянальных ліній эканомкласа адпраўленнем:
  - ад ст. Мінск-Пасажырскі будуць ісці да ст. Беларусь і назад,
  - ад ст. Маладзечна – да ст. Радашкавічы і назад.
- Перавозка пасажыраў паміж станцыямі Беларусь і Радашкавічы будзе ажыццяўляцца аўтобусамі па чыгуначных білетах.
- Заязджаць аўтобусы на п.п. Анусіна, Хмелеўка НЕ БУДУЦЬ.
- **АДМЯНЯЮЦЦА ЦЯГНІКІ рэгіянальных ліній эканомкласа 11,12 красавіка**
  - д.ц. Гудагай-Мінск, адпр. ад ст. Гудагай у 20:14, прызначаны ў кірунак Гудагай-Маладзечна

**12 красавіка**

- д.ц. Мінск-Гудагай, адпр. ад ст. Мінск-Пасажырскі ў 6:10,18:05;
- д.ц. Гудагай-Маладзечна, адпр. ад ст. Гудагай у 9:37,21:26;
- эл.ц. Мінск-Маладзечна, адпр. ад ст. Мінск-Пасажырскі ў 11:33,14:40,18:15;
- эл.ц. Маладзечна-Мінск, адпр. ад ст. Маладзечна ў 7:33, 11:12, 14:57, 19:42;
- эл.ц. Алёхнавічы-Мінск, адпр. ад ст. Алёхнавічы ў 6:10;
- д.ц. Гудагай-Мінск, адпр. ад ст. Гудагай у 8:20 прызначаны ў кірунак Гудагай-Маладзечна.

- **12 красавіка АДМЯНЯЮЦЦА ЦЯГНІКІ гарадскіх ліній Мінск-Беларусь**
  - адпраўленнем ад станцыі Мінск-Пасажырскі ў 05:45, 6:00, 6:40, 7:32, 9:22, 10:32, 11:23, 13:35, 14:55,16:00, 16:35, 17:25, 17:47, 18:35,19:30, 20:18;
  - адпраўленнем ад станцыі Беларусь у 6:35, 7:17, 7:34, 8:17,10:35, 11:55, 12:45, 14:45, 16:30, 17:22, 17:40, 18:32, 18:52, 20:02, 20:35, 21:30.
- **13 красавіка** цягнік рэгіянальных ліній эканомкласа адпраўленнем ад станцыі Мінск-Пасажырскі ў 00:30 прыбудзе на станцыю Маладзечна ў 3:04 (тэхнічная стаянка па станцыі Беларусь 1:06-2:01).
- У сувязі з тым, што 12 красавіка (суткі) у раскладзе руху цягнікоў унесеныя значныя змяненні, інфармацыю пра расклад руху цягнікоў просім удакладняць:
  - на станцыях, прыпыначных пунктах, у даведачным бюро, на сайце rw.by да паездкі.
- Звяртаем вашу ўвагу, што працягласць паездкі 12 красавіка (суткі) значна павялічыцца.

Мінскае аддзяленне беларускай чыгункі, станцыя Маладзечна УНП 600199541

**Расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканомкласа і гарадскіх ліній** (пазначаныя ✳) **на 12 красавіка ва ўказаны перыяд наступны:**

**Мінск - Беларусь / Радашкавічы - Маладзечна**

| Адпр. ад ст. Мінск-Пасажырскі | Прыб. на ст. Беларусь | Адпр.ад ст. Радашкавічы | Прыб. на ст. Маладзечна |
|---|---|---|---|
| 4:39 | 5:10 | 5:45 | 6:37 |
| ✳ 5:00 | 5:24 | - | - |
| 5:24 | 6:00 | 6:35 | 7:30 |
| 6:23 | 7:00 | 7:35 | 8:30 |
| 7:20 | 7:57 | 8:32 | 9:27 |
| ✳ 8:20 | 8:54 | - | - |
| ✳ 8:43 | 9:17 | - | - |
| 8:57 | 9:34 | 10:09 | 11:06 |
| 9:52 | 10:30 | 11:11 | 12:06 |
| ✳ 12:10 | 12:26 Ждановічы | - | - |
| ✳ 12:35 | 12.51 Ждановічы | - | - |
| 12:48 | 13:25 | 14:00 | 14:58 |
| ✳ 15:10 | 15:26 Ждановічы | - | - |
| 15:36 | 16:14 | 16:49 | 17:47 |
| 16:33 | 17:10 | 17:45 | 18:41 |
| 17:35 | 18:12 | 18:47 | 19:42 |
| 19:14 | 19:51 | 20:26 | 21:22 |
| 20:45 | 21:22 | 21:57 | 22:54 |
| 22:15 | 22:54 | 23:29 | 00:18 |

**Маладзечна - Радашкавічы / Беларусь - Мінск**

| Адпр. ад ст. Маладзечна | Прыб. на ст. Радашкавічы | Адпр. ад ст. Беларусь | Прыб. на ст. Мінск-Пасажырскі |
|---|---|---|---|
| 3:57 | 4:52 | 5:27 | 6:04 |
| - | - | ✳ 5:47 | 6:21 |
| 5:11 | 6:08 | 6:42 | 7:18 |
| 5:49 | 6:46 | 7:21 | 7:58 |
| 6:52 | 7:49 | 8:24 | 9:02 |
| - | - | ✳ 9:05 | 9:39 |
| - | - | ✳ 9:27 | 10:01 |
| 8:38 | 9:35 | 10:09 | 10:47 |
| 9:58 | 10:56 | 11:31 | 12:08 |
| - | - | ✳ 13:34 Ждановічы | 13:50 |
| - | - | ✳ 14:04 Ждановічы | 14:20 |
| 12:44 | 13:41 | 14:16 | 14:53 |
| - | - | ✳ 15.34 Ждановічы | 15:50 |
| 15:23 | 16:21 | 16:56 | 17:33 |
| 16:23 | 17:21 | 17:56 | 18:33 |
| 17:33 | 18:31 | 19:06 | 19:44 |
| 18:47 | 19:44 | 20:19 | 20:55 |
| 20:31 | 21:27 | 22:02 | 22:37 |
| 21:55 | 22:48 | 23:21 | 23:55 |

**Расклад руху аўтобусаў 12 красавіка**

| Беларусь - Радашкавічы | |
|---|---|
| Адпраўленне ад ст. Беларусь | Прыбыццё на ст. Радашкавічы |
| 5:20 | 5:35 |
| 6:10 | 6:25 |
| 7:10 | 7:25 |
| 8:07 | 8:22 |
| 9:44 | 9:59 |
| 10:40 | 10:55 |
| 13:35 | 13:50 |
| 16:24 | 16:39 |
| 17:20 | 17:35 |
| 18:22 | 18:37 |
| 20:01 | 20:16 |
| 21:32 | 21:47 |
| 23:04 | 23:19 |

| Радашкавічы - Беларусь | |
|---|---|
| Адпраўленне ад ст. Радашкавічы | Прыбыццё на ст. Беларусь |
| 5:02 | 5:17 |
| 6:18 | 6:33 |
| 6:56 | 7:11 |
| 7:59 | 8:14 |
| 9:45 | 10:00 |
| 11:06 | 11:21 |
| 13:51 | 14:06 |
| 16:31 | 16:46 |
| 17:31 | 17:46 |
| 18:41 | 18:56 |
| 19:54 | 20:09 |
| 21:37 | 21:52 |
| 22:58 | 23:11 |

# Даўгінава. Галакост у час Другой сусветнай вайны

*Пачатак у №№11,13, 14.*

**Працяг публікацыі нашага земляка гісторыка Аляксандра Плавінскага, прысвечанай гісторыі Даўгінава. У хуткім часе пабачыць свет кніга гэтага аўтара пра мястэчка.**

Мы прапануем газетны варыянт працы навукоўца.

У той самы дзень, 29 красавіка, пачаліся чарговыя расстрэлы яўрэяў. На наступны дзень немцы правялі паўторную зачыстку мястэчка, каб адшукаць тых, хто змог схавацца напярэдадні. Расстрэлы працягваліся 30 красавіка і 1 мая 1942 года. Падчас другога пагрому было забіта каля трох соцень чалавек.

У жывых пакінулі толькі спецыялістаў – тых, хто меў запатрабаваныя ў акупантаў прафесіі.

Трэці пагром прайшоў 21 мая 1942 года (некаторыя крыніцы паказваюць на пачатак чэрвеня). Карнікі прыехалі ў Даўгінава, каб ліквідаваць яўрэяў, якія засталіся ў гета. Толькі нешматлікія змаглі ўцячы ў той дзень у лес. Усе астатнія былі забітыя.

Апісваючы жахі расстрэлаў, відавочца **Лявон Рубін** успамінаў:

> **“Яўрэяў прымусілі пабудаваць агароджу, за якую потым іх і загналі. Атрад з Вілейкі ноччу атачыў гета, забіваючы падчас аблавы людзей, што беглі. Пакінулі ў жывых толькі спецыялістаў, астатніх адвялі ў хлеў і расстралялі.**

Трупы спалілі. Наступных акцый доўга чакаць не давялося. Няма слоў, каб перадаць жах гэтых дзён. Дзяўчат аблівалі газай і падпальвалі, дзяцей забівалі на вачах у бацькоў... Яўрэі стараліся ўцячы ад расправы. Хаваліся ў бункерах, часам будавалі там памосты ў тры паверхі. Немцы, выявіўшы прытулкі, закідвалі іх гранатамі”.

У той дзень расстралялі каля дзвюх тысяч чалавек. Непасрэдна кіраваў аперацыяй унтэрштурмфюрэр Гравэ. Але асабліва вызначыўся ў карнай акцыі эсэсавец Франц Гес.

У фашысцкую партыю ён уступіў у 1939 годзе. У войскі СС Геса, які адрозніваўся зайздросным здароўем, прызвалі, у першую чаргу, як палітычна добранадзейнага члена партыі. Яго бацька быў звычайным рабочым на заводзе і загінуў у 1916 годзе. Служэнне нацысцкай партыі Гес, па яго прызнанні, выбраў таму, што быў немцам.

Да прызыву ў войска Франц працаваў кавалём. Спецыялізаваўся на вырабе вагаў. У 1939 годзе ён скончыў трохтыднёвыя курсы войскаў СС, у сакавіку 1941 году – паліцэйскую памежную школу, у 1943-м – курсы інструктараў службовых сабак. Гэты падрыхтаваны кат 1 снежня 1941 года ў складзе зондэркаманды прыбыў у Мінск для “аховы СД, а таксама знішчэння яўрэяў і арыштаў грамадзянскага насельніцтва”. Да знішчэння яўрэяў у Даўгінаве ў яго ўжо быў багаты досвед практычнай работы. Сказаць, што ў яго былі рукі па локаць у крыві, значыць, нічога не сказаць. 7 і 8 снежня 1941 года Гес удзельнічаў у знішчэнні пацыентаў псіхіятрычнай бальніцы Мінска. Тады расстралялі каля сотні чалавек. Іх знішчылі, таму “што гэта нявартыя людзі”.

Праз тыдзень, 8 і 9 снежня, быў расстрэл зняволеных, якія ўтрымліваліся ў Мінскай турме. Пакуль іх давезлі да месца расстрэлу, “каля паловы замерзла”. Тады расстралялі прыблізна 250 чалавек. Са слоў яго таварышаў па службе: “Гэта мерапрыемства было звязанае з яўрэямі і палякамі”. 10 ці 11 снежня 1941 года зондэркаманда расстраляла дзве тысячы дзяцей, жанчын і старых з Мінскага гета.

4 лютага 1942 гады каманда катаў прыехала ў Вілейку, дзе ў сакавіку расстраляла пяцьшэсць соцень непрацаздольных яўрэяў – дзяцей, старых і інвалідаў. Бо “гэта ўваходзіла ў праграму нацыянал-сацыялістычнай партыі Германіі”. Задачай зондэркаманды было знішчэнне ўсяго яўрэйскага насельніцтва ў Вілейскай акрузе.




Фота Кірыла СУДНІКОВІЧА.

Помнік ахвярам вайны ў Даўгінаве.

Пры расстрэле яўрэяў у Даўгінаве Гес непасрэдна стаяў на пасту, сам выводзіў з гета людзей і асабіста знішчыў 80 чалавек. Сярод іх былі безабаронныя жанчыны, старыя і дзеці. Яўрэяў ставілі на калені і стралялі ім у галаву. Каб схаваць сляды злачынства, пасля расстрэлу трупы аблілі бензінам і спалілі ў хляве. (Верагодна, даючы гэтыя паказанні, Гес меў на ўвазе першы пагром, паколькі пры другім і трэцім трупы не спальвалі).

Крывавы шлях Геса прадоўжыўся далей. У ліпені 1942 года ў Ілы былі знішчаны паўтары тысячы яўрэяў. Асабіста Гес тады расстраляў каля шасці дзесяткаў чалавек. У тым жа месяцы ў Валожыне знішчылі каля дзвюх тысяч яўрэяў, асабіста Гес расстраляў каля 120 чалавек. У Вішневе загінулі паўтары тысячы яўрэяў.

У канцы ліпеня ў складзе каманды з паўтузіна чалавек Гес выехаў у Мінск, дзе каты забілі 18 тысяч яўрэяў з гета. Пры ўдзеле Геса расстралялі і забілі ў душагубках 27 тысяч 950 чалавек.

Пасля правядзення другога і трэцяга масавых расстрэлаў трупы спальваць не сталі, а даручылі іх пахаванне камандзе з пакінутых у жывых яўрэяў-спецыялістаў.

> **Знішчэнне амаль трох тысяч яўрэяў стала найвялікшай трагедыяй у гісторыі мястэчка. Але, як той казаў, каму – вайна, а каму – маці родная. Пасля праведзенага Галакоста ў мястэчку з’явілася мноства хутка пабагацелых мясцовых жыхароў. Некаторыя з іх нават не хавалі, што рабавалі яўрэйскія дамы! Іншыя знаходзілі схаванае золата і каштоўнасці.**

Пасля вайны адплата спасцігла ўсіх катаў, якія не змаглі схавацца ад савецкай улады.

Унтэр-афіцэр зондэркаманды Франц Гес на судовым працэсе ў студзені 1946 года даў паказанні аб знішчэнні падчас адной з распраў 2,2 тысячы яўрэяў з Даўгінава, Ілы, Княгініна і іншых.

Паводле дадзеных выканаўчага камітэта Вілейскага раёна (паводле ўдакладненых дадзеных 1969 года) аб злачынствах акупантаў на яго тэрыторыі ў 1941 – 1944 гадах, было ўстаноўлена, што ў населеных пунктах Даўгінаўскага сельскага Савета было забіта 2,8 тысячы чалавек. Пры гэтым на тэрыторыі сельсавета знішчаных населеных пунктаў не было. Такім чынам, шматлікія дадзеныя розных інтэрнэт-рэсурсаў аб расстрэле ў Даўгінаве каля пяці тысяч яўрэяў і знішчэнні самога мястэчка з’яўляюцца перабольшаннем.

Найбольш рашучая і ініцыятыўная частка яўрэйскага насельніцтва ўсё ж здолела выратавацца і сышла ў лясы...

У цяперашні час у памяць аб расстрэле яўрэйскага насельніцтва на цэнтральнай плошчы Даўгінава ўсталяваны помнік-абеліск “Журботная маці”. На яўрэйскіх могілках ёсць брацкая магіла, дзе пахаваныя астанкі амаль трох тысяч жыхароў, забітых у ходзе Галакосту.

**Аляксандр ПЛАВІНСКІ,**
**гісторык.**
**Працяг будзе.**

## ● КАЛЯНДАР

**8 КРАСАВІКА**

**60 гадоў** назад (1956) у Мінску адкрыўся Беларускі дзяржаўны тэатр юнага гледача.

**9 КРАСАВІКА**

**1946 год.** У Міхельсдорфе (Германія) з ініцыятывы Наталлі Арсенневай і Юркі Віцьбіча створанае Беларускае літаратурнае згуртаванне “Шыпшына”.

**10 КРАСАВІКА**

**Міжнародны дзень вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў**



**85 гадоў** з дня нараджэння Івана Чыгрына (1931 – 2006), беларускага літаратуразнаўца, крытыка, паэта.

**11 КРАСАВІКА**

**60 гадоў** з дня адкрыцця (1956) Беразінскага сярэдняга прафесійнага вучылішча №42 тарфянікаў.

**12 КРАСАВІКА**

**475 гадоў** з дня нараджэння Пацея Іпація (свецкае імя Адам Львовіч) (1541 – 1613), беларускага царкоўнага і дзяржаўнага дзеяча, пісьменніка-палеміста.

**90 гадоў** назад (1926) у Вільні пачаўся так званы “працэс 94-х – суд, арганізаваны польскімі ўладамі над дзеячамі заходнебеларускага нацыянальнага руху (доўжыўся да 22 красавіка 1926 года).

**Сусветны дзень авіяцыі і касманаўтыкі (1961).**

**13 КРАСАВІКА**

**70 гадоў** з дня закладкі (1946) у Маладзечне гарадского парку Перамогі. Адкрыты ў маі 1956 года.

**14 КРАСАВІКА**

**130 гадоў** з часу выхаду (1886) “Минского листка”, першай у Беларусі легальнай грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты (выходзіла да 1902 г.).

**85 гадоў** назад (1931) памёр Віктар Вальтар, пісьменнік. Пахаваны на каталіцкіх могілках у Даўгаўпілсе (Латвія).

**1101 год.** Памёр полацкі князь Усяслаў Брачыслававіч (Чарадзей). Нарадзіўся каля 1029 года.

**370 гадоў** назад (1646) быў пабудаваны касцёл Св. Марыі ў мястэчку Вішнева Валожынскага раёна. Помнік з архітэктурнымі рысамі стылю рэнесансу, ранняга і позняга барока, ракако.

**365 гадоў** назад (1651) упершыню ў пісьмовых крыніцах згадваюцца вёскі Мясата, Пісараўшчына, Раеўшчына на Маладзечаншчыне.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

Цэнтру карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі ў Маладзечне сёлета 1 красавіка споўнілася 20 гадоў.

# У стасунках дзяцей няма бар’ераў. Іх ствараюць дарослыя

Навучэнцы 5 і 7 “Б” класаў цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі ў Маладзечне ў вольны ад заняткаў час.



Анжаліка Шапяленка, дырэктар цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі ў Маладзечне.



Ірына Нядвецкая, намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце.

МАЛАДЗЕЧНА

**– Нашы дзеці вельмі добрыя. Мне заўсёды шкада, калі яны ад нас сыходзяць. Калі бачыш, чаму яны навучыліся за столькі гадоў, якімі самастойнымі сталі, калі разумееш, колькі ўкладзена ў іх любові, цяпла, сіл, – кажа Ірына Нядвецкая.**

Яна працуе ў цэнтры карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі ў Маладзечне 15 гадоў, 14 з іх – намеснікам дырэктара па вучэбнай рабоце.

Дырэктар **Анжаліка Шапяленка** – 16 гадоў, з іх 14 – на гэтай пасадзе.

– Для бацькоў напачатку найбольш складана прыняць гэтых дзяцей, – кажа Анжаліка Міхайлаўна. – Гэта нармальна, бацькі хочуць, каб іх дзіця выздаравела. Яны не разумеюць, што да гэтага стану дзіцяці трэба проста прывыкнуць і любіць яго такім, якое яно ёсць. Многія ж чакаюць, пакуль прыдумаюць цудатаблетку, якую даў – і дзіця здаровае. Працэс звыкання доўгі і няпросты. Для многіх бацькоў стрэсавая сітуацыя, калі дзіцяці прызначаюць спецыяльную праграму навучання, бо яно не засвойвае праграму агульнаадукацыйнай школы. Аднак яго ўсё адно трэба вучыць, у жыццё адпраўляць, працаўладкоўваць. Бацькам хочацца, каб іх дзіця было паспяховым.

У цэнтры не дзеляць дзяцей на хворых і здаровых. Найперш яны звычайныя дзеці са сваімі радасцямі і няўдачамі.

– Мы ездзім на спаборніцтвы і заўсёды прывозім прызавыя месцы, – кажа дырэктар цэнтра. – Нашы дзеці робяць цудоўныя вырабы, спяваюць, танцуюць. Калі не правакаваць іх на агрэсію, адказваюць дабром, ніколі проста так не пакрыўдзяць. Яны імкнуцца рабіць усё акуратна і дасканала.

**– Вы 16 гадоў уключаныя ў жыццё дзяцей з асаблівасцямі развіцця. Заўважаеце змены ў адносінах грамадства да іх?**

– Сёння грамадства адкрытае, – кажа Анжаліка Міхайлаўна. – Можна ўбачыць людзей у калясках, заўважыць, як чалавек з сіндромам Даўна шпацыруе з кімсьці па вуліцы. Раней грамадства хавала гэтых дзяцей. Іх баяліся паказваць, з імі саромеліся выйсці ў краму. Цяпер да гэтага адносяцца спакойна. Моладзь іншая, глядзіць на свет іншымі вачыма. Яна ставіцца да гэтага так: здарылася, значыць, здарылася. Не адварочваецца. Цяпер гэтыя дзеці больш прынятыя, асабліва добра іх прымаюць дзеці.

У цэнтр завітваюць вучні з розных школ горада, разам з дзецьмі цэнтра праводзяць мерапрыемствы.

– У іх у стасунках увогуле няма бар’ераў, – дадае Ірына Маруфаўна. – Гэтыя сустрэчы – маса станоўчых эмоцый. Мне падаецца, перашкоды, бар’еры ствараюць дарослыя. Кіраўніцтву іншых школ мы тлумачым, што калі дзіця з асаблівасцямі развіцця ідзе ў школу, ад класнага кіраўніка залежыць, як яно будзе прынятае. Калі класны кіраўнік здолее арганізаваць дзіцячы калектыў, праблем увогуле не будзе. Складанасці ў адаптацыі могуць узнікнуць з-за некамунікабельнасці вучня альбо праблем з навучаннем. Але дзеці прынятыя ў школах, ім там лепей. І калі ў іх не атрымліваецца вучыцца “на выдатна”, затое яны могуць цудоўна спраўляцца, напрыклад, са спартыўнымі заданнямі. Галоўнае – заўважыць іскрынку, якая ёсць у кожнага чалавека.

**У інтэграваных класах па ўсім Маладзечанскім раёне навучаецца 163 дзіцяці з асаблівасцямі развіцця.**

Дзеці, якія наведваюць цэнтры карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі, не атрымліваюць пасведчанне аб заканчэнні школы. У сувязі са сваімі захворваннямі яны не могуць быць інтэграваныя ў агульнаадукацыйныя ўстановы.

– Раней лічылася, што дзеці, якія ходзяць у наш цэнтр, не паддаюцца навучанню, – распавядае Ірына Маруфаўна. – Яны сядзелі дома, з бацькамі, са сваёй бядой у закрытай прасторы. Цяпер дзякуючы таму, што ў краіне стварылі такія цэнтры, у іх ёсць магчымасць атрымліваць адукацыю.

– Гэтыя дзеці жывуць у грамадстве, – працягвае Анжаліка Міхайлаўна. – Нашы выпускнікі ходзяць у цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Сустракаеш іх у горадзе і радуешся таму, што яны самі ходзяць, самі камунікуюць з іншымі людзьмі, нас пазнаюць. Заўсёды з намі размаўляюць, гэта вельмі прыемна.

– Здаецца, мае імя па бацьку такое складанае, але яны яго памятаюць, – усміхаецца Ірына Маруфаўна.

**– Чаму вы імкняцеся навучыць дзяцей?**

– Максімальна сацыялізаваць іх у грамадстве. Навучыць элементарным гігіенічным правілам, камунікацыі. Кагосьці – на ўзроўні жэстаў ці з дапамогай карцінак, кагосьці – на ўзроўні простых сказаў. Але гэта ўжо дазваляе ім задавальняць свае патрэбы, нешта папрасіць, сказаць, калі раптам штосьці баліць. Гэта першыя крокі.

Далей вучым рабіць штосьці па гаспадарцы. Прыбіраць, даглядаць за раслінамі, жывёламі, каб дзеці маглі дапамагчы бацькам. Прыгатаваць салату ці зрабіць бутэрброд. Карыстацца бытавой тэхнікай: мікрахвалёўкай, фенам для сушкі валасоў, пыласосам. Тлумачым прызначэнне бытавой тэхнікі, якая ёсць у кожным доме. Вучым мыць дробныя рэчы.

Карацей, даглядаць сябе і жытло. Потым знаёмім з установамі горада, з іх прызначэннямі. Напрыклад, крамай ці аптэкай. Наша асноўная задача не ў тым, каб навучыць пісаць і чытаць, а ў тым, каб навучыць жыць у гэтым свеце максімальна незалежна ад каго б ні было, – тлумачыць дырэктар цэнтра.

**У цэнтры карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі ў Маладзечне займаецца 129 дзяцей.**

**– Як паводзіць сябе з дзецьмі з асаблівасцямі развіцця?**

– Хочацца, каб людзі проста былі больш добрыя і міласэрныя адзін з адным. Людзі з інваліднасцю такія ж, як і ўсе іншыя. Часам іх проста трэба выслухаць, і калі ёсць магчымасць дапамагчы, то дапамагчы. Напрыклад, перавесці праз дарогу. Для гэтага не трэба мець спецыяльных ведаў, трэба проста быць больш уважлівымі да людзей, – тлумачыць Ірына Маруфаўна.

**– Ці ёсць тэндэнцыя да павелічэння ці змяншэння інваліднасці?**

– За час, колькі існуе цэнтр, статыстыка прыкладна стабільная. Цяпер людзі больш адкрытыя. Калі нараджаецца дзіця з праблемай, бацькі адразу прыходзяць. Гадоў 15-20 таму такіх дзяцей хавалі: трымалі ў бабуль, звозілі ў вёску. Цяпер – не, – упэўнівае Анжаліка Міхайлаўна.

**Настасся РОЎДА.**
**Фота аўтара.**



Маша малюе рознакаляровы свет.



Улад займаецца з настаўніцай-дэфектолагам Вольгай Кулеш.



Даша на вясёлай хвілінцы фізкультуры.

# Скульптар, музыка, мастак, паэт, фатограф...

## 11 красавіка Уладзімір Церабун святкуе 70-годдзе

СМАРГОНЬ

**Пра вядомага скульптара з нагоды юбілею гавораць яго блізкія.**

11 красавіка дзень нараджэння святкуе і брат спадара Уладзіміра мастак выкладчык цымбалаў **Юры Церабун**. Ён старэйшы на два гады.

### Брат

– Два гады таму мы разам ездзілі па Гарадзеншчыне і глядзелі ўсе тыя аб'екты, якія ён пабудаваў. Больш за паўтары тысячы кіламетраў праехалі за тыдзень. Такога цуда я яшчэ не бачыў! Наколькі творы ўпісваюцца ў наваколле – па належні, па памеры. Глядзіш – і душа радуецца. Ні за адзін твор не сорамна. Ён зрабіў столькі ўсяго, што не хопіць газетнай старонкі, каб усё пералічыць. Прычым знайшоў у сабе сілы зрабіць альбомы, арганізаваць тое, што пакіне ў спадчыну.

Брат шмат займаецца дабрачыннасцю, дапамагае многім. Думае пра іншых людзей. Ён чалавек высокай культуры, самаахвярны і неверагодна працаздольны.

**Некалі так сказаў: "Не магу дачакацца раніцы, каб пачаць працаваць".**

Ён вялікі арганізатар і чалавек слова. У яго кожная хвіліна на ўліку.

Мы разам хадзілі ў сярэднюю школу №1 у Смаргоні, абодва займаліся музыкай, выяўленчым мастацтвам, фатаграфіяй... Няма такой галіны ў мастацтве, якой бы ён не кранаў. І кампазітар, і рамансы складае, і балалайкай валодае, і цымбалы стаяць у хаце, і на гітары штодзень займаецца, спявае, вершы піша, артыкулы... Вельмі таленавіты чалавек.

Я ганаруся тым, што ты мой брат і цудоўны сябар!

### Дачка

**Наталля Церабун**, дызайнерка.

– Такія людзі, як мой бацька, вельмі рэдка сустракаюцца ў жыцці. Унікальная асоба. Складана казаць пра нейкія яго якасці паасобку. Ён вельмі добры, спагадлівы, усё сваё жыццё робіць штосьці для іншых.

Мой бацька адрозніваецца ад усіх. Ён творчы чалавек і творча падыходзіў да майго выхавання. Калі мне захацелася домік для лялькі, ён рабіў з гэтага цэлы праект. Чарціў, ствараў макет, укладваў туды ідэю. Ён не шкадаваў на гэта часу і рабіў усё вельмі творча. Праектаваў мэблю, рабіў так, каб дзверы адчыняліся і зачыняліся. І ўсё аўтарскае, такога нідзе не было. Я была ў неверагодным захапленні!

Менавіта ён, калі я была маленькая, заўважыў у мяне асаблівыя здольнасці да малявання. Менавіта ён вырашыў, што гэтую здольнасць трэба развіваць. Ён абраў для мяне прафесію і прасачыў, каб я пайшла правільным шляхам.

Цяпер я дарослая і магу сказаць велізарны дзякуй яму за гэта! Ён не памыліўся і выбраў лепшае для мяне. Тое, што мне падабаецца і што я ўмею рабіць.

### Сябры

**Мікалай Апіёк**, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, мастак-жывапісец.

– Я заўсёды, як толькі мог, падтрымліваў гэтага таленавітага чалавека.

Валодзя заўсёды аб'ектыўны і шчыры, яму можна даверыцца. У яго ёсць вельмі важная рыса: заўсёды дапамаць людзям, не толькі блізкім. Пра яго можна гаварыць і як пра чалавека, і як пра скульптара, і як пра грамадзяніна.

Ён цудоўны скульптар, у яго безліч найцікавейшых работ, але яшчэ і вельмі адораны музычна. Калісьці іграў і спяваў перад делегацыяй у Гродне, і хтосьці са слухачоў тады сказаў: "Калі б вы пайшлі ў музыку, то атрымалі б большую славу".

**Уладзімір Мішчанчук**, заслужаны артыст Беларусі, дэкан тэатральнага факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў у Мінску.

– Ён – мая маладосць, маё юнацтва. Нашы сустрэчы былі творчымі і непаўторнымі. Ён узначальваў у Гродне аб'яднанне мастакоў. Вылучаўся як асоба, як чалавек, які разумее, дзеля чаго жыве і што ад гэтага жыцця хоча. У яго было творчае натхненне.

Я добра ведаю яго дыпломную працу, мемарыяльны комплекс "Дальва". Мяне вельмі кранае помнік загінулым пры выкананні службовага і воінскага абавязкаў супрацоўнікам міліцыі "Крылатая", зроблены ў суаўтарстве з **Крахалёвым**. Работа "Ветразь" каля турыстычнага гатэля ў Гродне, манументальная скульптура "Атака" ў Слуцку, "Свіцязянка" на Навагрудчыне. А што казаць пра "Расстраляную песню", якую я ўвогуле лічу адным з найвышэйшых яго дасягненняў! І шмат іншых, што я буду пералічваць, калі кожны яго твор цудоўны.

Я вельмі беражліва стаўлюся да керамічных вырабаў, якія ён мне падарыў.

Мы з Валодзем аднагодкі, і мне ўжо таксама хутка святкаваць такую ж дату, таму я хачу пажадаць яму трымацца яшчэ доўгія гады, каб не супакойваўся, каб заўсёды быў порах у парахаўніцы, каб заўсёды ішоў далей.

Я і мая сям'я, мы цябе любім, памятаем і спадзяёмся на новыя творчыя сустрэчы. Віншуем!

### Школа

**Расціслаў Шчасны**, настаўнік гісторыі СШ №1 Смаргоні, заслужаны настаўнік Беларусі, кандыдат педагагічных навук.

– Уладзімір Васільевіч быў у нас у школе літаральна на мінулым тыдні. Ён часта завітвае да нас, сустракаецца з вучнямі і настаўнікамі. Сустрэчы гэтыя заўсёды цікавыя, творчыя, бо ён жа таксама артыст. Рамансы любіць, цудоўны верш можа зарыфмаваць. Калі сустракаецца з дзецьмі, гаворыць, каб старанна вучыліся, каб пакінулі след, ніколі не забываліся пра родныя мясціны.

Ён шмат дапамагае школе, не шкадуе на гэта свайго часу. З ім звязаныя самыя цёплыя ўспаміны. Добра вучыўся, любіў маляваць.

Уладзімір Васільевіч быў і на юбілеях школы. Гэта чалавек з вялікай літары. І інжынер, і будаўнік, і скульптар, і архітэктар.

Найлепшыя пажаданні яму, нашаму вучню і нашаму гонару!

**Настасся РОЎДА.**
**Фота аўтара.**



**Я захапляюся ім і як асобай, і як творцам, і як музыкам. Я лічу, што на такіх людзях і трымаецца будучыня нашага мастацтва. Такія людзі, як ён, сцвярджаюць правы на жыццё і ўвасабляюць яго ў творах.**

**Даведка "РГ". Уладзімір Церабун.** Скульптар, ганаровы грамадзянін Смаргоні, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь. Нарадзіўся 11 красавіка 1946 года ў вёсцы Несцяняты на Смаргоншчыне. Скончыў СШ №1 у Смаргоні. Ад 1965 да 1968 года служыў у Савецкай Арміі. Пасля дэмабілізацыі паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут на аддзяленне скульптуры. У 1977 годзе прыняты ў сябры Беларускага саюза мастакоў.



Фота Алега УЛЕВІЧА, budzma.org

**Барыс Кіт. Беларускі грамадскі дзеяч, педагог, матэматык, фізік, канструктар амерыканскай ракетнай тэхнікі.**

# "Стаю на канцы свайго жыцця" – дзеячу беларускай эміграцыі Барысу Кіту споўнілася 106 гадоў

**6 красавіка 106-ы дзень нараджэння сустракае славуты беларус, асветнік, навуковец Барыс Кіт.**

Некалькі апошніх гадоў Барыс Кіт жыве ў доме для састарэлых у нямецкім Франкфурцена-Майне. Пасля пералому шыйкі сцягна ён перанёс аперацыю, здольнасць хадзіць не вярнулася, ён ездзіць на інвалідным вазку.

Напярэдадні 106-га дня народзінаў карэспандэнту "Свабоды" ўдалося пагутарыць з Барысам Кітом па тэлефоне.

**– Барыс Уладзіміравіч, найперш скажыце, як вы сябе пачуваеце, як здароўе?**

– Здароўе моцна пагоршылася, але яшчэ ёсць трохі. Я асабліва не рухаюся, сяджу ў хаце. Не магу хадзіць, карыстаюся возікам. А апекуюцца мною тут нармальна...

**– Умовы ў доме-інтэрнаце вам падабаюцца?**

– Ужо цяжка сказаць, што мне нешта падабаецца, бо я ўжо стаю на канцы свайго жыцця і хутка мяне ўжо не будзе...

**– Як будзеце адзначаць 106 гадоў?**

– Людзі будуць званіць, можа, хто-небудзь зойдзе, як заўсёды, буду вельмі рады, калі я яшчэ каго-небудзь цікаўлю... 106 гадоў – гэта вялікі ўзрост. У мінулым я шмат разоў думаў, што памру ўжо. Але не памёр... Я сядзеў у страшэннай нямецкай турме і паміраў штодня, 30 дзён сядзеў у турме ў Глыбокім. Кожны дзень паліцыя забірала ад нас з такой ямы на расстрэл 25 чалавек, пяць заставалася, і я сярод іх. І так 30 дзён, 30 разоў чакаў смерці. Але Бог, відаць, не хацеў маёй смерці. Трэба сказаць, што мяне тады выратаваў **Кастусь Касяк**, які пайшоў да нямецкага гэбітскамісара і дамогся майго вызвалення праз 30 дзён у турме. Ён быў маім вучнем у Навагрудскай беларускай гімназіі, добрым вучнем. І многім беларусам ён тады дапамог вызваліцца з нямецкіх турмаў. Але калі прыйшлі бальшавікі, то першым яго павесілі...

**– Барыс Уладзіміравіч, якія маеце навіны ад вашай сям'і?**

– Ёсць навіны. У маёй унучкі месяц таму нарадзілася другое дзіця, хлопчык. Яшчэ адзін праўнук. Гэта прыемная навіна. Уся мая сям'я жыве ў Амерыцы, раскіданая па ўсіх канцах... А нядаўна памерла мая былая жонка **Ніна Корсак**, пахаваная ў Вашынгтоне. Такія навіны.

**– Якія маеце кантакты з Беларуссю, з беларусамі? Землякі звоняць, заходзяць?**

– Ціха звычайна, ніхто не прыходзіць. Можа, заўтра, у дзень майго нараджэння, будуць тэлефанаванні.

Апошніх навінаў з Беларусі Барыс Кіт не ведае, не мае магчымасці сачыць. Але ён пазітыўна ацаніў, што летась у Беларусі выпусцілі палітвязняў, што ў грамадстве стала больш запатрабаваная беларуская мова:

"Цешуся гэтаму, бо Беларусі належыць свабода".

У чаканні віншаванняў і зычэнняў з нагоды 106-годдзя Барыс Кіт выказаў і сваё пажаданне беларускім прыяцелям:

"Маё пажаданне адзінае: каб Беларусь стала свабоднай ад усялякіх непатрэбных рэчаў, якія апошнім часам былі".

**Валер КАЛІНОЎСКІ,**
**"Радыё Свабода".**

## "Смаргонь" правядзе сустрэчу з заўзятарамі

**СМАРГОНЬ**

Сустрэча пройдзе ў суботу, 9 красавіка, у Цэнтры культуры ў мікраараёне Заходні. Пачатак – у 12:00. Заўзятарам прадставяць склад каманды. На сустрэчы будуць прысутнічаць кіраўніцтва і трэнерскі штаб клуба, прадстаўнікі райвыканкама і райаддзела ўнутраных спраў. Будзе магчымасць задаць пытанні.

Пасля заканчэння сустрэчы, у 14 гадзін адбудзецца заключны матч перадсезоннай падрыхтоўкі. "Смаргонь" прыме "Маладзечна-ДЮСШ-4" . Пройдзе матч на стадыёне ДЮСШ у мікраараёне Заходні. Пра ўсё гэта паведаміў прэс-аташэ "Смаргоні" **Уладзімір Амбрасевіч.**

А 2 красавіка "Смаргонь" дома з лікам 2:0 абыграла ФК "Прамень" з Мінска.

Па адным голе ў кожным тайме забілі **Аляксандр Талканіца** і **Аляксандр Клешчанок**. Варатар смаргонцаў **Павел Давыдаў**, як і ў мінулым матчы, адбіў пенальці.

## "Ашмяны" – самая незабіўная і нягрубая каманда чэмпіянату

**СМАРГОНЬ**

Матчы апошняга туру ў вышэйшай лізе чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе так і не згулялі. Да смаргонскай "Віліі" і "Ашмянаў" і з другой спробы сапернікі не прыехалі. За што госці атрымалі тэхнічнае паражэнні 0:5.

"Вілія" заняла ў вышэйшай лізе чацвертае месца, "Ашмяны" – шостае. Перамагла "Энергія" з Зэльвы.

Па падліках ggff.by "Ашмяны" сталі самай незабіўной камандай – на рахунку яе гульцоў 59 галоў.

Але ашмянцы адзначыліся і са станоўчага боку: сталі самай нягрубай камандай. Гульцы атрымалі восем жоўтых і адну чырвоную картку.

**Захар Захарэвіч** з "Віліі" заняў чацвертае месца ў спісе бамбардзіраў у вышэйшай лізе з 22 галамі.

## У Вілейцы вызначылі лепшых у гіравым спорце

**ВІЛЕЙКА**

Спаборніцтвы па гіравым спорце прайшлі 31 сакавіка. Праводзіліся яны ў межах круглагадовай спартакіяды працоўных калектываў Вілейскага раёна. Спаборніцтвы праводзіліся ў гіравым дваябор'і (рывок і штуршок). Прынялі ўдзел восем каманд.

У вагавой катэгоры да 90 кілаграмаў перамог **Валеры Варановіч**, на другім месцы **Павел Парфяновіч**, на трэцім – **Андрэй Паўлоўскі.**

У вагавой катэгоры звыш за 90 кілаграмаў найлепшы вынік у **Сяргея Адамовіча**. Другім быў **Андрэй Гаўрышчук**, трэцім – **Мікалай Лемешаў**, паведаміў інструктар-метадыст цэнтра фізкультурна-аздараўленчай работы "Сатурн" **Аляксандр Вайда.**

Абодва пераможцы прадстаўлялі райаддзел па надзвычайных сітуацыях, то гэта каманда заканамерна заняла першае месца ў камандным першынстве. На другі месцы каманда Вілейскага водаканала, на трэцім – таварыства "Буддэталі".

## ...і валейболе

**ВІЛЕЙКА**

А раней у межах спартакіяды прайшоў турнір па валейболе сярод мужчынскіх каманд. Удзельнічалі 10 каманд.

У фінальны этап увайшлі чатыры лепшыя. У выніку перамаглі валейбалісты Вілейскай ЖКГ. Каманда аддзела адукацыі, спорту і турызму была другой. "Энергазбыт" – на трэцім месцы, райаддзел па надзвычайных сітуацыях – на чацвертым.

## Трэцяе месца занялі гульцы "ІП Мядзел"

**МЯДЗЕЛ**

Паўфінальныя матчы чэмпіянату Мядзельскага раёна па міні-футболе адбыліся 30 сакавіка. "Спадарожнік" выйграў у "Юнацтва" 4:2. "Зубраня" было мацнейшае за "ІП Мядзел" 6:3.

У матчы за трэцяе месца 1 красавіка каманда "ІП Мядзел" гуляла з "Юнацтвам" і перамагла 4:1.

– У першым тайме быў адкрыты футбол. Абедзве каманды растранжырылі столькі момантаў: не забівалі ў пустыя вароты, траплялі ў штангі, – распавёў дырэктар фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак**. – Першы тайм завяршыўся 2:1 на карысць "ІП Мядзел". А ў другім тайме яе гульцы дацкнулі маладую каманду "Юнацтва".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**





Фота Настассі РОЎДЫ.

У маладзечанскім парку інструктар па пілатэсе і ёзе Юлія Філатава дэманструе, як рабіць некаторыя практыкаванні.

# Робім зарадку на свежым паветры

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Разам з інструктарам па пілатэсе і ёзе Юліяй Філатавай.**

**– У які час найлепш рабіць зарадку?**

– Чым раней, тым лепш. Прачнуліся, выпілі шклянку вады, памылі твар, апрануліся і – займацца фізічнай культурай.

**– Ці можна даваць моцную фізічную нагрузку раніцай?**

– Нагрузка павінна падбірацца вельмі індывідуальна, у залежнасці ад таго, наколькі чалавек падрыхтаваны.

**– Колькі павінна доўжыцца трэніроўка?**

– Ідэальна выдзяляць на такі здаровы рух гадзіну. Менш таксама можна, але тады трэба праводзіць яе актыўней. Рабіць больш практыкаванняў і менш перадышак. Калі хтосьці вельмі заняты, то некалькі разоў на тыдзень такіх практыкаванняў ужо дадуць пра сябе ведаць.

**– Ці прынцыпова важна мець для трэніровак спецыяльнае адзенне і абутак?**

– Самае галоўнае, каб чалавеку было камфортна: не горача, не холадна. Калі надвор'е ветранае, трэба штосьці накінуць. Падчас заняткаў, калі чалавек адчувае, што яму горача, можна больш распрануцца.

**– З асноўнымі практыкаваннямі можна справіцца і за паўгадзіны. Што ў астатні час рабіць?**

– Спачатку трэба хвілін 10 проста пашпацыраваць, але крок павінны быць досыць хуткім, актыўным. Пасля шпацыру пажадана ўсё крыху размяць: шыйныя, плечавыя суставы, грудную клетку, корпус, паясніцу, ногі, сцёгны, каленныя суставы, ступні. Гэта трэба, каб падрыхтаваць цела да больш актыўных практыкаванняў. Могуць быць прысяданні, нахілы – як адзінарныя, так і двайныя ці трайныя, нахілы бакавыя ці ўперад. Махі нагой: убок, уперад, назад. Кожнае практыкаванне трэба суправаджаць правільным дыханнем. Вельмі важна насычаць арганізм кіслародам падчас фізічнай нагрузкі і даваць магчымасць целу пасля кожнага практыкавання крыху аднавіцца. Напрыклад, зрабіць тры спакойныя глыбокія ўдыхі-выдыхі. Калі няма вялікай лішняй вагі, то можна хвілін 10 у канцы выдзеліць актыўнаму бегу. Таксама карысна. Але калі ёсць лішняя вага, то лепш не бегаць, бо гэта вялікая нагрузка на суставы. Лепш зрабіць штосьці на месцы. У ідэале – мець спецыяльны дыванок, на якім можна выканаць практыкаванні, напрыклад, на прэс.

**– Калі можна есці пасля заняткаў?**

– Калі падчас заняткаў вельмі хочацца піць, то можна выпіць вады, але дробнымі глыткамі і няшмат. Проста, каб наталіць смагу. А ўжо піць і есці можна мінімум праз паўгадзіны пасля фізічнай нагрузкі. Калі хочаце мець рэльефнае цела, то ў сняданні павінна быць вялікая колькасць бялку. Лепш не грэбаваць харчаваннем, калі вы вырашылі займацца сабой і сваім здароўем.

**Настасся РОЎДА, Наталля ТУР.**

# Кніга, якая прымусіць вас спрачацца з аўтарам і паглядзець на вайну вачамі дзяцей

Калі вы даўно шукаеце кнігу, якую б прачыталі на адным дыханні, прапануем вам раман англійскай пісьменніцы Джон Харыс "Пяць долек апельсіна".

Аўтар увесь час трымае чытача ў напружанні дзякуючы незвычайнаму сюжэту. Аповед пра Другую сусветную вайну паказаны вачамі маленькай дзяўчынкі Фрамбуаз.

Яна расказвае пра тое, якія адносіны складаліся ў мірнага насельніцтва з немцамі, пра быт у вайну. З дзіцячай непасрэднасцю паказаны дзіцячыя забавы, напрыклад, лоўля рыбы, першае каханне, цяжкія ўзаемаадносіны з маці.

Аднак у тую ж чаргу аповед пра вайну дастаткова супярэчлівы – маленькая Фрамбуаз з братам Касісам і сястрой Рэн-Клод дзеля жвачкі, шакаладак і модных часопісаў расказваюць немцам пра асаблівасці жыцця жыхароў паселішча.

Кніга Джоан Харыс "Пяць долек апельсіна" не раз прымусіць чытача спрачацца з аўтарам, узрушацца ўчынкамі герояў, адчуць боязь, расчараванне... Калі вы хочаце адчуць усю разнастайнасць гэтых пачуццяў, то вам бясспрэчна трэба пазнаёміцца з кнігай "Пяць долек апельсіна".

**Галіна СІНІЦА.**

● ТЭАТРЫ

## Мінскі абласны драматычны тэатр



*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Плачу наперад**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Надзея Птушкіна*

8 красавіка – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Дзядзечкаў сон**" (камедыя мардасаўскіх нораваў), *Фёдар Дастаеўскі*

13 красавіка – у 19:00

-рэтра ў 2-х частках), *Ірына Пісьменная*

26 красавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/.

УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Спячая прыгажуня**" (казка-сон), У.Мятальнікаў, бел.

10 красавіка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:

***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***

Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

МАТЛ "Батлейка" УНП 600136804

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | 7 | | | 4 | | | |
| | 1 | | 7 | 6 | | | | 8 |
| | | 6 | | 5 | | | | |
| | 6 | 5 | | 4 | | | | |
| 8 | | | | | | | | 5 |
| | | | | 3 | | 4 | 6 | |
| | | | | 2 | | 9 | | |
| 1 | | | | 9 | 3 | | 4 | |
| | | | 6 | | | 2 | 1 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● АФІША



Фота kong-kino.co.

Кадр з фільма "Беласнежка і Паляўнічы 2".

## Кіно: што вы адкрыеце для сябе, калі пераглядзіце знаёмыя з дзяцінства сюжэты

КІНО МАЛАДЗЕЧНА

Адразу пяць новых фільмаў распачынаюць красавіцкі кінапракат.

Фэнтэзі **"Кніга джунгляў"** у 3D – найлепшая магчымасць паказаць дзецям прыгоды пра чалавека ў свеце жывёл. Гісторыя Маўглі – гэта займальны і дынамічны сюжэт, у якім раскрываюцца надзвычай важныя тэмы сям'і, сяброўства, смеласці, вернасці. А сучасная графіка і афармленне фільма яшчэ больш уражваюць.

Наступны аповед пра чалавека і прыроду для сямейнага прагляду – мультфільм **"Рабінзон Круза: Вельмі заселены востраў"**. Галоўны герой трапіў на востраў, поўны самых розных жывёл, якія ў сваю чаргу бачаць чалавека ўпершыню. Усіх іх чакае шмат вясёлых і небяспечных прыгод.

Інтэрпрэтацыя знакамітай казкі ў фэнтэзі **"Беласнежка і Паляўнічы 2"** зусім не нагадвае карціну для дзяцей. Гэта працяг спробы пераасэнсаваць вядомы з дзяцінства сюжэт. У адрозненне ад дзіцячай казкі, фільм прасякнуты помстай, болем і ледзяной адзінотай. Калі Равэнна і яе сястра каралева Фрэя збіраюцца заваяваць Зямлю, на іх шляху паўстае паляўнічы са сваёй каханай. Толькі ён не адчувае страху і ідзе праз праклятый лес насустрач свайму лёсу.

Расійская драма **"Скрынка"** распавядае пра аматараў футбола, якія гуляюць у так званай "скрынцы". Чацвёра сяброў лічаць другім домам гэтую скрынку, у якой гуляюць. Дзяўчына аднаго з іх падштурхоўвае каханага паспрабаваць сябе ў прафесійнай камандзе. І аднойчы іх кампанія сутыкаецца з камандай прафесійнага футбаліста. Каб не дзяліць скрынку, яны ладзяць жорсткі турнір, у які ўцягваецца ўвесь раён. Цяпер гэта ўжо не проста гульня.

Баявік **"Хардкор"** распавядае пра мужчыну, які прачынаецца ў навуковай лабараторыі. Побач з ім яго жонка, якую таксама скралі. Галоўнаму герою даводзіцца ратаваць жонку і змагацца з увасабленнем самога зла.

КІНО ВІЛЕЙКІ

Кінатэатр "Мір" таксама прапануе прэм'ерны баявік "**Хардкор**".

Для тых, хто збіраецца на спатканне, падыдзе расійская карціна з гістарычным складнікам "Герой". А кампаніі сяброў найлепшым выбарам стане фантастыка "Галодныя гульні. Сойка-перасмешніца. Частка1".

**Аддзел інфармацыі.**

**Пра час і цану кінасеансаў глядзіце ў рубрыцы "Рэпертуары" на сайце rh.by.**

● ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

*Працягваем тэму грэчаскай кухні. Наталля Скібіна прапануе стравы, якія будуць даспадобы аматарам мяса. А соусы, на выбар, можна дадаваць да любога тушанага мяса, катлетак, галубцоў.*

### Свініна з цыбуляй-парэем і сельдэрэем

Свініну парэжце на вялікія кавалкі і абсмажце на патэльні. Пасля дадайце рэпчатую цыбулю, соль, спецыі і патушыце амаль да гатоўнасці. Калі ўсё пратушыцца, дадайце цыбулю-парэй і сельдэрэй, трошкі патушыце. Гатовую страву заліце лімонна-яечным соусам.

### Лімонна-яечны соус

Выцісніце сок з чатырох лімонаў. Аддзяліце бялкі ад жаўткоў з чатырох яек. Узбіце ў міксеры бялкі і паступова ўлівайце лімонны сок. Маса ўтройваецца. Узбівайце і дадавайце па адным жаўтку. Уліце пацыху 4 чарпачкі вадкасці (булён мясны ці гароднінны, можна гатаваную ваду), узбіце. Соус гатовы.

### Соус да агародніны, мяса

Вазьміце 1 вялікі агурок, абрэжце скурку і надзярыце на буйной тарцы, адцісніце сок. Гэту масу дадайце да 0,5 л густой смятаны, павышанай тлустасці. Сюды ж праз часночніцу выцісніце 3-4 зубкі часнаку (на смак, можна і менш), дадайце воцат вінаградны і аліўкавы алей. Усё перамяшайце. Соус гатовы.



**Проста МАРЫЯ.**

● ГАРАСКОП
8-14 КРАСАВІКА



**Авен.** Дні, калі месяц расце, прысвяціце знешнасці і творчым талентам. А фінансавае чуццё падштурхне заняцца і матэрыяльнымі справамі.



**Цялец.** Вас чакаюць актыўныя, якія патрабуюць хуткіх і смелых рашэнняў, сітуацыі ў каханні і грашах. Толькі спешка вам не па душы. Але вы атрымліваеце падтрымку ад планеты Меркурый – планеты логікі, разважлівасці і кемлівасці. Так што паспяхова справіцеся з некамфортнымі сітуацыямі, выкарыстоўваючы гэтыя цудоўныя якасці.



**Блізняты.** Трымайце, што называецца, "нос па ветры" і не суньце яго туды, што вас не тычыцца.



**Рак.** Месяц расце, і ў вас прыбываюць сілы. Гэты час добра прысвяціць дзелавому і свецкаму жыццю, кар'еры. На выхадных разважайце, плануйце, накоплівайце рэсурсы і сілы, сустракайцеся з сябрамі – гэта зарадзіць вас бадзёрасцю.



**Леў.** Будзьце гатовыя да нечаканасцяў – да незапланаванай паездкі за мяжу ці візіту гасцей здалёк.



**Дзева.** Вам будзе прыходзіць шмат прыемнай і карыснай інфармацыі. Яна будзе паступаць пераважна праз інтэрнэт ці іншымі шляхамі ад людзей, якія жывуць далёка. Вы адкрыеце для сябе шмат новага ў пытаннях, якія вас цікавяць.



**Шалі.** Адзіны чалавек, які з вамі ўсё жыццё – гэта вы самі. Акружайце сябе ўсім, што вы любіце – ці то гэта сям'я, жывёлы, расліны, хобі – што заўгодна.



**Скарпіён.** Перыяд цудоўна падыходзіць для лячэння і аздараўлення. Ваш эмацыйны стан будзе залежаць ад іншых людзей. Таму ў зносінах выкарыстоўвайце пранікліваць і ваш прыродны дар псіхолага.



**Стралец.** Часцей смейцеся, гучна і доўга. Смейцеся, пакуль дыханне не перахопіць. Калі ў вас ёсць сябар, які вымушае вас смяяцца, праводзьце больш часу з ім.



**Казярог.** Калі вы прааналізуеце свае паводзіны і настрой, то зразумееце, якія нававядзенні вам патрэбныя, каб ваша жыццё стала лепшым.



**Вадалей.** Скажыце сваім каханым, што вы іх любіце, і выкарыстоўвайце любую магчымасць, каб быць з імі.



**Рыбы.** У вас павінна з'явіцца штосьці новае: новая рэч, новы заробак, новая крыніца даходу...

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

**9 красавіка, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +10 +15 | | +13 +19 | | +13 +19 | | +11 +18 | |
| | 736 | ↖ 3 | 734 | ↑ 7 | 735 | ↖ 7 | 737 | ↖ 4 |
| Вільня | +8 +12 | | +7 +14 | | +10 +18 | | +12 +19 | |
| | 746 | ↓ 4 | 742 | ↙ 2 | 744 | ↖ 4 | 746 | ↑ 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 6.22
Захад 20.05
Даўжыня дня 13.43

Усход 7.45
Захад 22.51
Квадра 1




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -5,8 °С у 1990 годзе
Максімальная тэмпература +19,8 °С у 2001 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 14,0 мм у 2004 годзе
Назіранні за 38 гадоў. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Як ацэньваюць эканамічную сітуацыю ў Беларусі прадстаўнікі кампаній з нямецкімі інвестыцыямі ды іх прагнозы, ці будзе горш, чытайце ў наступным нумары.















## У суботу Вілейка прымае канферэнцыю па Павіллю

ВІЛЕЙКА

"РГ" паведамляла, што 9 красавіка ў Вілейцы пройдзе канферэнцыя "Вілія-Neris: досвед трансгранічнага супрацоўніцтва".

Удзел прымуць беларускія і літоўскія навукоўцы, удзельнікі экспедыцыі "Шляхам Тышкевіча", мясцовыя краязнаўцы, спецыялісты. Яны выступяць з дакладамі, у якіх закрануць датычныя Павілля пытанні. Адбудуцца прэзентацыя фільма і кнігі па выніках экспедыцыі 2007 года.

Пройдзе канферэнцыя ў актавай зале райвыканкама. Пачатак – у 10 гадзін. Рэгістрацыя ўдзельнікаў у фае да 9:30.

## Пагуляйце ў настольныя гульні

МАЛАДЗЕЧНА

Гульнятэка пройдзе ў нядзелю, 10 красавіка, ад 14:00 да 17:00 у канферэнц-зале бібліятэкі "Верасок".

Яе праводзіць спецыяліст па настольных гульнях **Генадзь Грыневіч.**

Арганізатары запрашаюць і дзяцей, і дарослых.

Можна будзе пазнаёміцца з гульнямі: "Капялюш", "Джэнга", "Дзікія джунглі", "Свінтус", "Казачнік", "Эвалюцыя", іншымі.

## У Залессі пройдзе выстава Алега Драбышэўскага

СМАРГОНЬ

У Дзяржаўнай гісторыка-культурнай установе "Музей-сядзіба М. К. Агінскага" ў Залессі на Смаргоншчыне адкрываецца персанальная выстава мінскага мастака-жывапісца **Алега Драбышэўскага** "Водар Радзімы". Прысвечаная яна Году культуры ў Беларусі.

Пачынаецца выстава 8 красавіка і працягнецца да 22 мая. Яе прэзентацыя намечаная на 15 красавіка а 16 гадзіне.

На выставе сярод ужо вядомых твораў будуць дзве новыя карціны, якія спецыяльна напісаныя да Года культуры. Наведнікі змогуць выказаць свае меркаванні і прапановы па назве гэтых твораў.

Нядаўна гэта выстава праходзіла ў Ашмянскім краязнаўчым музеі імя Францішка Багушэвіча.

**Аддзел інфармацыі.**



ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці дапушчальна, каб прадпрыемства выдавала заробак прадукцыяй?



**Яўген Зімніцкі, будаўнік, Смаргонь:**
– Заробак людзі павінны атрымліваць грашмі – у кожнага свае планы, што набываць за іх. Добра, калі заробак выдалі, напрыклад, прадуктамі харчавання, іх можна прадаць знаёмым. А калі іншым таварам, атрымліваецца, што чалавек застаецца з непатрэбнымі рэчамі і без грошай у кішэні.



**Наталля Мазура, прадпрымальніца, Маладзечна:**
– Думаю, што гэта дапушчальна. Калі работнік не згодны з гэтым, варта даведацца ў кіраўніцтва накont нарматыўных дакументаў, якія б дазвалялі падобную сітуацыю, звярнуцца ў іншыя інстанцыі, каб дазнацца, ці правамерна гэта.



**Валерыя Гормаш, сацыёлаг, Маладзечна:**
– Улічваючы сучасны стан многіх прадпрыемстваў, на гэтае пытанне складана адказаць адназначна. Аднак лічу, што заробак нельга выдаваць прадукцыяй. Людзям неабходна плаціць за камунальныя, набываць прадукты і іншае, а на ўсё трэба грошы.



**Аляксандр Кісель, фатограф, Маладзечна:**
– З аднаго боку, гэта лепш чым нічога. З іншага, кіраўніцтва прадпрыемства павінна зрабіць усё магчымае, каб да такога не дайшло. Добра, калі заробак далі таварам, які можна перапрадаць, а так невядома, куды дзець такі заробак.



**Вікторыя Калядзюк, студэнтка, Маладзечна:**
– Лічу гэта здзекам з людзей. Не кожнай прадукцыяй апранеш і накорміш сям'ю. Калі ж такое здарылася, то работнікам варта шукаць новую працу, хаця ў цяперашняй сітуацыі гэта складана. Таму атрымліваецца, як заўсёды, – выкручвацца са становішча сваімі сіламі.



**Вольга Баброўка, геадэзіст, Смаргонь:**
– Можна змірыцца з такім становішчам, калі такая сітуацыя на прадпрыемстве не больш за тры месяцы. І калі заробак выдаюць прадуктамі першай неабходнасці, і калі гэтыя тавары не перавышаюць 20-30% ад агульнай сумы заробку.



**Ягор Пінкевіч, вэб-распрацоўшчык, Маладзечна:**
– Ні ў якім разе. Што людзям потым рабіць з гэтай прадукцыяй? Прадаваць? Калі прадпрыемства не змагло гэтага зрабіць, то работніку будзе значна цяжэй гэта зрабіць.

**Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№15 (1093) 8.04.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 327. Падпісана ў друк у 9.00 7.04.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.